
Час поўні ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Цэрквы ў Аўгуставе ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3188) Год LXII Беласток, 18 чэрвеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Фота Давіда Гайко


Фота Крыстыны Гудэль

Сёлета Зялёныя Свёнткі (Спасланне Святога Духа, Тройцу) хрысціяне святкавалі ў адным тэрміне. Крыху раней, бо з 30 траўня па 1 чэрвеня, яўрэі адзначалі свята Шавуот, Пяцідзясятніцу. Тэалагічныя адрозненні паміж рэлігіямі і веравызнаннямі ўжо стагоддзямі не перашкаджаюць, каб народныя традыцыі і абрады, якія суправаджаюць гэтыя святы, аб'ядноўвалі ўсіх вернікаў.

# Зялёныя Свёнткі

## Паводле Месяца і Сонца

Каталікі Вялікдзень святкуюць раней або супольна з праваслаўнымі вернікамі. Часам розніца паміж каталіцкімі і праваслаўнымі святамі складае нават цэлых пяць тыдняў. Розніцы вынікаюць з календароў, якімі карыстаюцца Праваслаўная царква і Каталіцкі касцёл.

— У адпаведнасці з рашэннем I сабора ў Нікеі (325 г.) Пасха павінна выпадаць пасля яўрэйскай Пасхі, у першую нядзелю пасля першай веснавой поўні Месяца, — кажа тэолаг **Хрыстафор Марыя Ружанскі**. — Недасканаласць календара прывяла з часам да сітуацыі, у якой «царкоўная поўня» Месяца проста перастала адпавядаць яго фактычнай поўні як астранамічнай з'яве. Цэлая Праваслаўная царква (за выключэннем падлеглых Экуменічнаму Патрыярхату аўтаномных Праваслаўных касцёлаў Фінляндыі і Эстоніі) выкарыстоўвае юліянскі каляндар (хаця да вызначэння пастаянных святаў, як Божае Нараджэнне, у большасці праваслаўных Цэркваў выкарыстоўваецца неаюліянскі каляндар, які амаль супадае з грыгарыянскім), што ўплывае на пазнейшае святкаванне Вялікадня ў Праваслаўнай царкве.

Сёлета супольна адсвяткаваны Вялікдзень даў магчымасць супольна адзначыць Зялёныя Свёнткі (Спасланне Святога Духа, Тройцу). Менавіта пытанне ці Святы Дух паходзіць ад Айца, ці Айца і Сына было адной з прычын тэалагічных спрэчак, што між іншым давяло да расколу ў 1054 годзе.

## Шавуот — яўрэйскія Зялёныя Свёнткі

З 30 траўня па 1 чэрвеня габрэі ўспаміналі вельмі важнае здарэнне — Бог перадаў Майсею Дзесяць Запаветаў, называнае Шавуот, Пяцідзясятніца або яўрэйскія Зялёныя Свёнткі. У Торы ісңуе наказ адзначаць тры вялікія святы — Пасху, свята Сукот і менавіта Шавуот.

— Шавуот святкуецца ў гонар самай важнай падзеі, калі Гасподзь Бог даў людзям фундаментальны маральны закон — дзесяць запаведзей, — адзначыў **Ян Мацяеўскі** з Музея ў Тыкоціне.

На памятку гэтай падзеі яўрэі паломнічалі ў Іерусалімскі храм і прыносілі ахвяры з пладоў зямлі і жывёл. Як адзначыў Ян Мацяеўскі, са святам Шавуот звязаны розныя звычаі, якія выступаюць і ў прадстаўнікоў іншых рэлігій.

— Так як сёння касцёлы і цэрквы, так і яўрэі зялёнымі галінкамі аздабляюць свае бажніцы і дамы, — сказаў Ян Мацееўскі з Музея ў Тыкоціне. — Біблейская традыцыя кажа, што калі Майсей атрымаў дзве табліцы з Дэкалогам, пустынная гара Сінай зазелянілася. Гэта відаць на карціне Рэмбрандта «Майсей са скрыжалямі законаў». Зелень — сімвал адроджанай вясны. Шавуот гэта таксама свята ўраджаю.


Фота Улі Шубзды

## Зялёныя Свёнткі на беларускіх вёсках

Зялёныя Свёнткі (Сёмуха, Тройца) — лічацца важным веснавым святам. У дахрысціянскай традыцыі значнай складаючай гэтае свята было ўшанаванне продкаў, якое пратрымалася па сёння ў Хадароўскай парафіі. Вядома, з часам Сёмуха была дастасавана да хрысціянскай традыцыі, таму сёння ў каталіцкай, хадароўскай могільнікавай капліцы на трэці дзень Зялёных Свёнтак адбываецца ўрачыстая імша. Вернікі моляцца за душы блізкіх памерлых і наведваюць іхнія магілы. Тут і ў суседняй вёсцы Карповічы захавалася традыцыя абыходу вёскі і палёў, гэтак званыя «Палеткі». Паводле жыхароў Старой Хадароўкі гэты звычай існаваў тут ад заўсёды. Жыхары вёскі з песнямі ходзяць польнымі дарогамі, дзякуюць за ўраджай і просяць засцерагчы іх ад стыхійных бедстваў прыроды. У час «Палетак» таксама асвячаюцца палі. Да сёння захавалася традыцыя асвячэння на Дзявятнік (Божае Цела) вяночкаў з зёлкамі, якія потым выкарыстоўваюцца ў якасці ахоўнага альбо лекавага сродку.

Трэці дзень свята Тройцы асабліва адзначаецца ў Крыначцы — святым месцы ў Белавежскай пушчы паблізу Гайнаўкі. Штогод сюды прыязджаюць праваслаўныя паломнікі, каб зачарпнуць вады з крыніцы, якая лічыцца цудадзейнай.

Любіцель мясцовай гісторыі протаіерэй **Яўген Падгаецкі** ў інтэрв'ю для «Нівы» зазначыў, што культ крыніцы мае доўгую традыцыю.

— Мяркуецца, што каля святой крыніцы ў XIII стагоддзі пасяліліся праваслаўныя манахі, што ўцякалі з Кіева ад татараў, — сказаў журналісту «Нівы» Аляксею Марозу айцец Яўген Падгаецкі. Дадаў адначасова, што «мясцовыя пушчанскія людзі здаўна карысталіся вадой з гэтай крыніцы».

**Уршуля ШУБЗДА**





# Навошта гэтыя межы

„Навошта гэтыя межы, калі за іх рэжуць!?” — спяваецца ў вядомым хіце папулярнага беларускага музычнага гурту. А сапраўды — навошта яны? Навошта яны там, дзе непатрэбныя! А калі патрэбныя — то каму? — пытанне натуральнае і простае як аглобля.

Давялося мне апошнім месяцам упершыню праехаць праз некалькі адметных меж. Граніц не нейкіх аддаленых заморскіх дзяржаў, а меж менавіта нашай бліжэйшай прасторы, можна сказаць памежжа. Неяк ехалі аўтамабілем з сябрам з Літвы — з Друскенік у Польшчу — у кірунку Сейнаў. Але замест звыклай трасы праз Лаздзіяй — Агароднікі выпадкова збочылі лявей і трапілі на іншую дарогу. Асэнсаваўшы кіламетраў праз дзесяць сваю памылку, пастанавілі ехаць гэтым выпадковым шляхам далей, паколькі на мапе дарога была пазначана з Літвы ажно да сумежных Бержнікаў. Вузкая асфальтоўка ішла спярша ў засені густых дрэў, у адным месцы яна перайшла ў фрагмент брукаванкі, які пакінулі, па ўсім відаць, адмыслова як частку гісторыі. А месцамі на шляху пераважала лясная гравійка. Насустрач ці ўслед аніводнай машыны. Так праз лес урэшце ў ганаровай адзіноце і пераехалі мы з Літвы ў Польшчу. А на тым месцы, дзе яшчэ пару дзесяцігоддзяў таму быў сапраўдны „жалезны мур”, убачылі толькі сціплы адкрыты шлагбаўм ды знак, што пачалася тэрыторыя іншай дзяржавы. Такая мяжа. Найбольшай заваёвай Еўрапейскага Саюза напэўна можна лічыць восъ гэтую адкрытасць меж, вольнага перамяшчэння чалавека амаль па ўсёй Еўропе.

Цяпер вось да гэтай еўрапейскай бязмежавай супольнасці далучылася і Украіна. За суседзяў можна толькі парадавацца — цяпер яны могуць ехаць па кантыненце без віз. І гэта вялікая заваёва ўкраінскай дзяржавы. Выступаючы на ўрачыстым канцэрце, украінскі прэзідэнт Пятро Парашэнка працытаваў класічны лермантаўскі верш „Прощай, немытая Россия, страна рабов, страна господ!”. А Беларусь катастрафічна адстае ад паўднёвых суседзяў, тыя ж біяметрычныя пашпарты пачнуць выдаваць нам толькі ў 2019 годзе.

Іншая экзатычная мяжа, якой давялося праехаць на мінулым тыдні — гэта пешаходна-роварны пераход Лясная — Рудаўка на беларуска-польскім сумежжы праз Аўгустоўскі канал. Раней можна было праз гэты памежны пункт толькі праплыць на байдарках ці іншым водным транспарце. Зараз, з гэтага года, у летні сезон можна ісці пешкі альбо ехаць на роварах. Праехалі мы групай на роварах з вялікай прыемнасцю. Ды яшчэ больш упэўніліся ў штучнасці гэтай мяжы. І беларускія, і польскія ветлівыя мытнікі і памежнікі, падобныя вёскі, хай сабе па польскім баку і больш заможныя, прыдарожныя крыжы і помнікі, усюды зычлівыя людзі. Польскіх турыстаў, аднак больш, бо яны могуць ехаць на тэрыторыю, прылеглую да Аўгустоўскага канала і да Гародні на пяць дзён без віз. Дзяржава Беларусь можа яшчэ больш спрасціла б уезд палякам і іншым еўрапейцам, але цэлы час мусіць азірацца на ўсходняга суседа. А ў Маскве вельмі хваравіта рэагуюць на кожнае, нават невялічкае збліжэнне Беларусі з Еўропай. І гэта вынік той, больш чым дваццацігадовай арыентацыі ўрада Рэспублікі Беларусь на інтэграцыю з Расеяй. Пагроза нам ідзе менавіта з усходу і вось там патрэбная мяжа, для спынення нелегалаў ды бандытаў. Але там, дзе неабходная пільная мяжа, яе няма, і наадварот.

Беларусам жа ў Еўропу дагэтуль патрэбныя шэнгенскія візы, якія дастаткова дарагія і якія не так проста атрымаць. Паводле апошніх даследзінаў беларускі пашпарт у глабальным рэйтынгу „моцы пашпартоў” толькі на 58-м месцы з 94 пазіцый. А на кожнай пазіцыі па некалькі краін. Такім чынам вышэй Беларусі больш за сто дзяржаў. Без візы беларусы могуць ездзіць у 70 краін свету (у 37 — зусім без візы, яшчэ ў 33 з атрыманнем візы на месцы). Але гэта пераважна краіны Азіі. Дзеля параўнання — усе суседзі вышэй па гэтым рэйтынгу — Польшча — 10-я (ажно 150 бязвізавых краін!), Літва і Латвія — на 11-м месцы, Украіна ўжо на 30-м (119 бязвізавых краін). І нават Расея значна вышэй — на 41-м (106 краін). Вось такая горкая для беларусаў рэчаіснасць адкрытасці свету. Горкая, але, на жаль, заканамерная.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На Ільяша ў Малінніках



У Малінніках, як і ўвогуле ў праваслаўнай парафіі ў Падбеллі, найбольшае прыхадскае свята гэта свята прарока Ільі, якое Царква штогод адзначае 2 жніўня. Стала ў нас традыцыяй, што святочнай раніцай на гадзіну 10:00 амаль усе жыхары вёскі Маліннікі едуць на багаслужэнне ў царкву ў Падбеллі. Не толькі мае аднавяскоўцы едуць, але жыхары такіх вёсак як Градалі, Кошкі, Дубяжын, Мокрае, Казлы ці Станцыя Рыгораўцы таксама. Разам з імі моляцца жыхары суседніх прыходаў у Орлі і Вульцы-Выганоўскай. Штогод у Падбелле прыбывае шмат гасцей з Бельска, Беластока ды іншых гарадоў Польшчы. Напрыклад, у гасцях бывалі мая цётка Надзя і дзядзька Юзаф, якія прыязджалі да нас штогод, калі яшчэ жыла мая бабуля. У Малінніках яны праводзілі свае выхадныя і святкавалі разам з намі. Вядома, было весела, калі пасля багаслужбы ў Падбеллі ўсе з'язджаліся, каб сустрэцца пры чарцы і пачастунку, бо ж такое права мае свята.

Калі я быў малы, часта на страганах пад царквою купляў я нейкія цацкі ці салодкія ледзяняцы. Калі стаў старэйшым, часта са свята прывозіў новую аўдыёкасету «Прымакоў» ці гурта «АС». У час гасцявання маіх цётак і дзядзькоў я на магнітафоне ўключаў касету, каб прыемна мінаў час падчас гасціны. І да гэтай пары на страганах можна купіць кампакт-дыскі з музыкай. У маім дзяцінстве, памятаю, на страганах таксама прадавалі пісталеты з коркамі. Раз і я купіў такі пісталет. Бацька не быў гэтым задаволены і загадаў ехаць на луг і там выстраляць усе коркі.

Цётка Надзя з дзядзькам Юзікам гасцявалі ў нас два тыдні, з намі ездзілі ў царкву, наведвалі ўсіх цётак. Яшчэ ў 1990-я гады таксама да нас прыязджаў на веласіпедзе з Чахоў-Арлянскіх родны брат маёй бабулі — дзед Валодзя. Ён вельмі любіў слухаць беларускую музыку, калі абодва з бацькам выпівалі. Прыемна ўспамінаю гэты час, калі ўсе мы гасцявалі пры стале ў садку ў цені яблынь, якія пасадзіў мой дзед. Дзед Валодзя быў франтавік — ён разам з Чырвонай Арміяй здабываў Берлін. Ён быў вельмі добрым чалавекам, сардэчным і добразычлівым. Заўсёды мне і маёй сястры прывозіў падарункі. На Ільяша ў канцы 90-х, калі дзед Валодзя не меў сіл ездзіць на веласіпедзе, на Ільяша яго прывозіла ягоная дачка, а мая цётка Ніна з Гайнаўкі.

У Малінніках у той дзень заўсёды была забава. Вечарам пагуляць у вясковай святліцы сыходзілася многа народу — і старыя, і малыя. Старыя бабы сядалі на лаўках і глядзелі як танцуе моладзь, пляткарылі, якая гэта пара з той забавы выйшла. Мы з бацькамі, цёткай Надзяй і дзядзькам Юзікам таксама ішлі на забаву. Аднойчы прыехалі да мяне сябры з Беластока. Мы выпівалі на панадворку, а цікаўны сусед заглядаў цераз плот, каб нешта падслухаць і панесці танную сенсацыю па вёсцы, як гэта мы выпіваем ды гуляем. А мой сябар кажа да яго:

— Сусед, давай да нас, вып'ем на свята.

Сусед засароміўся і раптоўна ўцёк у хату. Маім сябрам з Беластока хацелася ўпершыню трапіць на сапраўдную вясковую забаву. Яны не мелі білетаў, а ахова не хацела іх упусціць, бо яны не былі тутэйшыя. Тады мы чорным ходам пайшлі да арганізатараў забавы, выпілі з імі гарэлкі і тады маіх сяброў таксама ўпусцілі як сваіх. І так мы гулялі да самога рання. А я вярнуўся ў тры гадзіны ночы паспаць, бо ў мяне канчаўся выхадны і трэба было ехаць у Беласток.

Калі цяпер прыязджаю на Ільяша, то заўсёды з жонкай, сястрой і бацькамі едзем у царкву, а пасля робім грыль. Прыязджаюць да нас мая дваюрадная сястра са шваграм ды родны брат маёй мамы з дзядулем ды цэлай раднёю маёй мамы. Не змянілася адно: падчас пачастунку, так як і у 1990-х і 2000-х гадах, так і цяпер гучыць наша беларуская музыка, пры якой прыемна адпачываць і гутарыць. За гэты час змянілася многа: памерлі мая бабуля, яе брат Валодзя і мой дзядзька Юзік. Але заўсёды на Ільяша ў нас многа гасцей, з якімі можна выпіць, пагутарыць і пагуляць.

**Юрка БУЙНЮК**



Сваімі вачыма

# Прагноз надвор'я — адны нервы

Калі тыдзень таму згадаў я, між іншым, і пра піраміду медыйнага ашуканства ў сённяшнім свеце, то меў я на ўвазе перш за ўсё яе інфармацыйна-публіцыстычную абалонку. Рэй у гэтай сферы несумненна вядуць тэлевізійныя праграмы. Але ж, аказваецца, навінныя перадачы людзі глядзяць дзеля яшчэ адной мэты — прагнозу надвор'я. Менавіта прагноз надвор'я з'яўляецца тым момантам кожнага інфармацыйнага тэлевыдання, у якім заўсёды рэзка ўгару падымаецца слупок аглядальнасці. Таму, каб дачакацца прагнозу надвор'я на любой тэлестанцыі, трэба заўсёды і перачакаць некалькіхвілінную рэкламную падборку і аўтапрамоцыю станцыі. Нічога затым дзіўнага, што «пагадынкі» — вядучыя прагноз вельмі хутка становяцца зоркамі тэлеэкрана і адчуваюць сябе быццам бы акцёры папулярных тэлесерыялаў. Бо ж яны — не вядучыя навінных перадач, ці журналісты, якія рыхтуюць сюжэты ў адпаведнасці з палітычнай лініі станцыі. Тыя астатнія становяцца аб'ектам паўсюднай крытыкі канкурэнцыі і адрасатамі матаў з боку гледачоў. Вядучыя прагнозаў — не палітычныя, яны нават не нясуць адказнасці за тое, што падрыхтуюць ім прафесійныя сіноптыкі. Крый пане Божа, яны ж з прыгожай усмешкай, на фоне адмысловых карцінак, размахваючы рукамі, шчабечуць пра сонца і дождж. Ну і яшчэ пра грошы з кіраўніцтвам, бо гэта самая частая прычына іхніх развітанняў са сваімі праграмамі. А потым ужо ўздзел у тэлешоў — праграмах дзеля селебрыцтва і пустой славы, без падзелу на мужчынскі і жаночы род. Але іх роля менавіта такая: слупок аглядальнасці тых жа праграм мае расці, так як той слупок ртуці ў ліпеньскую спёку. Такая гэта рэчаіснасць і патрабаванні канкурэнцыі на медыйным рынку.

Штодзень мільёны гледачоў ва ўсім свеце ўзіраюцца ў шкляную пагоду, пра якую яшчэ ў васьмідзясятых гадах польскі гурт «Лёмбард» спяваў аб паўсюдна сініх шыбах ад тэлевізараў. Глядзяць усе: шафёры і дачнікі, сяляне і турысты, вучні і міністры. Усе збіраюцца ў дарогу, ва ўсіх свае спадзяванні і супярэчнасці. Адным на зарэз акурат заўтра патрэбнае сонца. Другім без дажджу не абысціся. Трэцім ветру і хмарак на небе заманулася. Усім тут не дагодзіш, а ўгнявіш многіх.

Мой бацька апошнімі гадамі нават свой расклад дня выбудоўваў на прагнозе надвор'я ў тэлебачанні. Можна з ім стэлефанавацца ў пару тых навін, калі прэзентуецца прагноз надвор'я. Найпэўней а сямнаццатай гадзіне перад «Тэлеэкспрэсам» і, вядома, перад дзевятнаццатай, пасля лакальнага «Аб'ектыва». Ён менавіта глядзіць дзве мапы пагоды і робіць сабе пэўныя высновы наконт таго, што будзе заўтра. Пры тым не забываецца на народныя прыкметы аб надвор'і і аддае ім вялікую павагу. У апошнім часе ён нават расхвальваўся па прычыне прадказанага і рэальнага надвор'я ў нашым рэгіёне. «Нават ім верыць нельга», — заявіў мне пры сустрэчы. Нешта не атрымліваецца з прагнозамі сіноптыкаў. Глядзіш у кнігу, а бачыш фігу. Смяяліся мы калісьці з розных неспадзяваных разыходжанняў паміж меркаваннямі сіноптыкаў і рашэннямі натуры. На мінулым тыдні ўсе згодна абяцалі ў Падляшскім ваяводстве ападкі дажджу некалькі дзён запар, так патрэбнага не толькі агародам, але і ўсёй сельскай гаспадарцы, не гаворачы пра лясы і спадзяванні грыбнікоў. А тут яго выпала столькі, што кот наплакаў. І менавіта калі чарговы дзень паўтаралі, што ноччу пройдуць лівні, мой бацька прадбачліва вечарам падліваў пасаджаны з маім братам агарод. І так дзень у дзень. «Ну і паглядзі, як прыгожа ўсё ўзышло. Каб я паслухаў тых спецыялістаў па пагодзе, то нават і цыбулі не было б», — не скрываў задавалення мой бацька, але цырымонію ўглядацца ў тэлепрагноз не адмяніў.

У суботу вечарам мой сябра, даслаўшы мне па электроннай пошце свой тэкст, заявіў, што знікае падлівасць свой раслінны агарод дзеля зямной прыгажосці. А ўсе мае сумненні наконт прагнозаў надвор'я пракаментаваў коратка: глядзі за акно, бо там праўда. І так відаць справа маецца з усімі іншымі праўдамі ў нашым жыцці. Трэба наглядаць і адчуваць сваімі вачыма і розумам.

**Яўген ВАПА**



Foto: Pixabay.com/Public Domain/KasaBubu

**Некалі пачыналі ў сакавіку, калі яшчэ толкам не паспяваў сысці апошні снег. Запіхвалі веснавое дыханне зямлі ў сферычную форму і пускаліся бегма за водарам натуральнай скуры — далёка, у ліпеньскія раніцы, у жнівеньскія пасляпоўдні, у вераснёўскія адвячоркі. Гулялі заўзята, да сутаргі ў нагах, да шчыльнага зліцця з зялёнай травой. І да сумеснай стомы, з якой нараджаюцца сумесныя мары — роўныя для ўсіх.**

Цяпер зрэдку выходзяць на пляцоўку. Выходзяць у тыя ночы, калі над вуліцай завісае поўня, а белыя сузор'і гуляюць месяцам у выбівалы. Саслізгваюць доўгім рукавом Малочнага шляху і, падлавіўшы зручны момант, падкрадваюць сузор'ям месячны мячык, як у дзяцінстве і недаканчанай маладосці падкрадалі яблыкі з суседавых садоў.

На пляцоўцы, некалі зялёнай і роўнай бы стальніца, чужыя людзі, што аднае раніцы з'явіліся сюды невядома адкуль, збудавалі дом. Канешне, замінае чужы дом на сваёй зямлі, але ж хлопцаў шмат, маладыя і дужыя, а ён і не такі ўжо аграмадны, як малюецца ў дзённым святле. Хто за падрубу, хто плячом у зруб, заціснуць зубы, напружаць мускулы і панясуць гэту будыніну з яе спячымі гаспадарамі за вёску, пад лес, дзе прастаіць да золаку. Панясуць асцярожна і бясшумна так, што з павуціны чужынскага сну не сарвецца ні адна нітачка.

Калі поўня разбівае тэрмометр ночы і размалёўвае неба халодным срэбрам ртуці, я ў настаўніцкім пакоі ізноў пераапранаюся ў спартыўны касцюм. Некалі па ўсёй школе ляжала драўляная падлога і калі з настаўніцкага праз калідор я выходзіў на вуліцу, на кожны мой крок дошкі адгукваліся скрыпеннем, распавядаючы кожная сваю гісторыю. Гэтай падлогі даўно няма. Іду праз цішыню з заплюшчанымі вачыма і баюся расплюшчыць іх. Калі прыадчыню павекі, ці не разбурацца вокны і дзверы, і століь? А сцены, калі дакрануся да іх позіркам, ці не знікнуць, не разыдуцца, як кругі на вадзе?

Бачу іх зводдалі. Ёсць Марэк — маленькі ростам непаседа, жвавы, як ртутны шарык, і высокі, хударлявы Ярэк, і налітыя мускуламі, бы класічны барэц Яраслаў. Ёсць прысадзістыя Пётрусь Малы і другі Пётрусь, той, што з-за дзіцячай усмешкі і кірпатага носіка атрымаў некалі мянушку Пінокіё. Некалькі крокаў убок адышоўся плячысты самотнік Ясь Капэля. Ёсць два старэйшыя браты Пётруся Малога — Генё і Славік, далей Кшысё, і Владзё Міленькі-Сыночак. З Владзем і Славікам мы аднагодкі і свой матч даўно адгулялі. Даю ім флажкі бакавых суддзяў і, пакуль адпраўяцца на месцы, пытаю:

— Усе прысутныя?

— Усе, правяраў, — кажа Владзё Міленькі-Сыночак.

— А той вунь у святочным касцюмчыку, што за варотамі топчацца з нагі на нагу, хто ён і чаму не пераапранаецца?

— Яго якраз ты можаш не ведаць. Калі мы з табой бегалі за мячыкам, ён пехатою пад стол хадзіў. Ды што я кажу, пад стол пехатою. Яго зусім яшчэ на свеце не было. Смургаль.

— І ўжо паспеў туды?

— Ага. Гісторыя такая з ім атрымалася. Паехаў на ровары склікаць сяброў у госці. Да васямнаццатага дня нараджэння дзінаў. Сябры частавалі і частавалі, і ноч сцежкі пераблытала, і ровар згубіўся. І заснуў на шпалах паміж рэйкамі. Пасля мы яго са шпалаў паднялі, але цягнік ужо прайшоў. Ён з тваімі хлопцамі не гуляў, дык не ведае — можна яму далучыцца, ці не? — Славік глядзіць на мяне і бачу пытанне ў ягоных вачах.

— Скажы, хай пераапранаецца. Дакладна ўсе ёсць?

— Усе да аднаго.

— Няўжо Олек з'явіўся? — дапытваю і чую, як у жылах пульсуе кроў. Олек адзіны з іх усіх, хто птушкай растаў у чыстым паветры, не паставіўшы за сабой канчатковую кропку. Зайшоў у хвалі Міжземнага мора і больш яго не бачылі.

Кажуць, з усяго, што жыве, толькі птушкам удаецца дагнаць мяжу паміж учора і сёння, прысесці там і надалей ляцець наперад. Таму няшмат мёртвых птушак людзі знаходзяць на зямлі. І з цягам часу я пачаў верыць, што Олек сапраўды перамяніўся ў птушку і, засунуўшы пальцы ў грыву часу, зацінуўшы іх моцна — моцна, ляціць, і ніколі не ўпадзе на зямлю.

— Олек ёсць, — пацвердзіў Владзё. Разгарнуў флажок, страсянуў нябачны пыл і пайшоў на бакавую лінію.

Часам на могілках, напярэдадні Праваднай нядзелі натыкаюся на цётку Аню.

— Не, яшчэ не вярнуўся, — уздыхае і разводзіць рукамі. — Толькі ўчора, здаецца, было, як складаў рэчы, выпраўляўся на мора. Людзі кажуць, бачылі ягоныя сляды і там, і сям, і нават на другім беразе гэтага мора. Я ездзіла паглядзець тыя сляды, але пакуль даехала, усё засыпаў дробны пясок.

Іду прывітацца з Олекам. Не пытаю дзе быў і чым займаўся апошнія трыццаць гадоў.

— У нападнікі цябе пастаўлю, як калісьці. Зможаш?

— Не ведаю, даўно не гуляў, але я пастараюся.

Пётрусь Малы прысеў на кукішках і гладзіць далонямі пакрыццё пляцоўкі. Падымаецца, падэшвамі буцаў шоргае наперад і назад, шрамы за каўчукавымі шыпамі адчыняюцца і зачыняюцца, як вада ў рэчцы, калі яе парэзаць вастрыём нажа.

— Проша пана, некалі тут была трава. А гэта ж не трава, што гэта?

— Што гэта? — я ізноў настаўнік і мне трэба ведаць адказ на кожнае вучнёўскае пытанне. Але не ведаю. Ці ёсць у свеце настаўнік, хто б ведаў з чаго анёлы ткуць пакрыццё пляцоўкі, калі пры поўні, хлопцам, што ніколі не сталі мужчынамі, захочацца згуляць у футбол залатым мячом месяца? І ці ёсць яны сапраўды, тыя анёлы? — Па-мойму гэта сінтэтычныя воблакі. Цяпер жа ўсё сінтэтычнае, — кажу, хаваючы няўпэўненасць.

Іду ўздоўж бакавой лініі, правяраю сцяжок у кутнім сектары, паварочваю да варотаў. Паміж стойкамі брамнік Ярэк займаецца размінкай.

— Усё нармальна? — пытаю. — Я чуў, што ў цябе былі праблемы з сэрцам.

— Былі, — Ярэк ківае галавой, але рухацца ад стойкі да стойкі не спыняецца. — Доктар казаў: ты, Яраслаў, гарэлку піць пакінь і ўсё будзе добра. Казаць лёгка, а вазьмі не пі, як усе п'юць. І што тут рабіць, калі не піць? Ад нуды можна памерці. Як пан думае, лепей ад нуды паміраць, ці ад гарэлкі? — зазірае ў вочы з хітраватай усмешкай.

— Ну, я не ведаю, табе там відней, — кажу і таксама ўсміхаюся.

— А я ўжо больш не п'ю. У нас там, проша пана, ніхто не п'е. Ні Пётрусі, ні Кшысё, ні Ясь Капэля. Усе цвярозыя як шкельца. Хукнуць можам, а то пан не паверыць, — кажа Ярэк. Бярэ разбег, адштурхоўваецца ад белага газона, выструнваецца і ў палёце прыбівае пяць пальцаў на папярэчніцы варот.

Наперадзе, там дзе сярэдняя лінія дзеліць поле на дзве паловы, Генё і Олек абмяркоўваюць стратэгію на першы выхад. Олек схіляецца, папраўляе гетры і шнураванні боцаў.

— Проша пана, — кажа Генё, — гуляем мы і гуляем, а супраць каго мы гуляем? Там жа, на другім баку пляцоўкі толькі імгла, там няма нікога.

— Супраць вечнасці, хлопцы. За сябе супраць яе гуляем, — чую, як пафас, падстроены пад бездань начной поўні, азываецца маім голасам. Мне не падабаецца гэты голас, але і губляць час на спрэчкі не хочацца. Даю першы свісток і месяц перамяшчаецца на другую палову поля. Вандруе ад нагі да нагі, з левага фланга на правы, ад Пётруся Малога да Геня, ад Кшыся, да Пётруся Пінокіё. У цэнтры наўпрост варотаў залаты мяч перахоплівае Марэк, завілістым дрыблінгам урываецца ў штрафную плошчу, перадае Олеку, той, не зводзячы вачэй з мяча, з усяе сілы б'е па варотах. Залаты месяц няўхільна шыбуе ў крыжавіну варот, адбіваецца ад папярэчыны, узлятае да нябёсаў і, абіраючы траекторыю знічкі, вяртаецца ў нашае штрафное, дзе даскоквае да яго Ясь Капэля. Дужы, каржакаваты, як і трэба быць стоперу, прымае мяч на грудзі, апускае на левую нагу, падбівае на вышыню калена і правай прабівае далёка, над галовамі паўабаронцаў, пад ногі нападнікам.

Хлопцы разрываюцца на часткі, перадача ідзе за перадачай, маланкава і беспамылкова, мяч, як верны сабака лашчыцца да буцаў і толькі калі ўдарыць па варотах бунтуецца, адмаўляецца перасячы лінію, працягнутую ад стойкі да стойкі.

З хвілін вырастаюць гадзіны, белы, сінтэтычны газон напухае, таўсцее, абясцільвае лыткі, даходзіць да пояса, да шыі. То тут, то там, як у запавоненым сне ўзлятае па-над воблакам залатая манетка мячыка. І можна падумаць, вось, нябачны ўладальнік часу робіць выгляд, што ёсць у яго выбар, можа спыніць стрэлкі гадзінніка, можа запусціць іх у новы дзень, але разгубіўся, не ведае, што рабіць і кідае жэрабя.

Яшчэ адзін удар, месячны мяч, слізгануўшы крайком па папярэчцы, ляціць далей, над далягляд і завісае там.

— Ізноў згулялі ў нічыю, — дзесьці з глыбіні воблакаў далятае Славікаў голас. Апошняе слова доўжыцца, глухое «ю-ууу» расцягваецца на ўсю даўжыню вуліцы і згасае за вёскай, у абсыпаных расой хмызняках.

— Нармальна. З вечнасцю не прайграць, ні выйграць у яе. Толькі ў нічыю можна згуляць з вечнасцю, — хачу сказаць, але воблакі стаяць ужо вышэй галавы і загортваюць у ціш усе словы.

Новы дзень над пушчай працірае вочы парчовым ручніком, ніткі ўтку крышацца, пасыпаюць усходняе неба бліскучым макам. Іду дамоў. Праз вуліцу з прадуктовай крамай, пад старымі грушамі падлеткі абселі драўляны стол дрымотнай, учарашняй калодай. Бутэлькі з-пад віна грэюць абымшэлыя начной расой хрыбты ў першых праменнях. Не спыняюся. Не ведаю іх, замаладыя. Зводдалі даходзіць гудок цягніка. Чую на спіне пранізлівы позірк цёткі Ані. Прыкідваюся, што не бачу яе і паскараю крок. Не магу азірнуцца. Не магу спыніцца. Не магу сказаць цётцы Ані, што сёння ноччу мы з Олекам гулялі ў футбол. Не магу, бо ўсе маці ведаюць, што ў дарозе дамоў іх сыны гатовыя пехатой прайсці мора, над прорвамі ўзляцець і праз агонь прарвацца. І вярнуцца.

XIII Беларускі этнаграфічны фестываль

# «Культура на сходах музея»



■ Міраслаў Пяхоўскі вучыў дзетак ляпіць з гліны гаршкі

У час трынаццатага Беларускага этнаграфічнага фестывалю «Культура на сходах музея», які 4 чэрвеня адбыўся на плошчы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, можна было пабачыць і купіць рукадзелле, а на майстар-класах павучыцца ў вопытных творцаў выконваць саматужныя вырабы. З вялікай сцэны прагучала многа беларускіх песень. Аматары танцаваць гулялі на траве. Беларускае мерапрыемства пачалося пасля абеду і доўжылася ажно да вечара. Публіка за гэты час мянялася.

На першы дзень Святой Тройцы і напярэдадні святкавання ў гонар святой Беларускіх зямель, прападобнай Еўфрасінні Полацкай, у Гайнаўцы было сонечна і вельмі цёпла. Бура і дождж паявіліся ў пушчанскім горадзе ажно ноччу. На вялікай музейнай плошчы сабралася многа гайнавян і жыхароў навакольных вёсак, сярод якіх заўважыў я пастаянных наведвальнікаў беларускіх фэстаў. Дзеткі і моладзь ахвотна ўдзельнічалі ў майстар-класах па народнаму рукадзеллю і такім чынам пачыналі вучыцца даўнім заняткам.

— У маёй сяброўкі ёсць кросны. Мне цікава павучыцца ткаць палавік, каб пасля выкарыстаць свае ўмеласці і паспрабаваць выткаць такі ў сяброўкі, — заявіла гайнаўская белліцэістка Ганна Хомчук, якая вучылася ткаць у ляўкоўскай ткачыхі Ірэны Ігнацюк.

Майстрыха ўжо чацвёрты раз вяла ткацкія майстар-класы падчас музейнага фестывалю. Паводле яе, сярод маладых асоб наглядаецца штораз большая зацікаўленасць ткацкай справай, якая супакойвае, вучыць цярплівасці і дапамагае адпачываць.

— Да мяне выстройваецца чарга дзетак, якія хочуць паспрабаваць ляпіць з гліны посуд з выкарыстаннем ганчарнага круга. Гэта цікавы досвед. У дзетак застанецца памятка з гліны. Пры нагодзе майстар-класаў я прэзентую і прадаю свой традыцыйны гліняны маляваны посуд. Раней прадаў сівакі, — сказаў Міраслаў Пяхоўскі з Чорнай-Вёскі-Касцельнай, які чарговы раз прыехаў у Гайнаўскі белмузей вучыць ганчарству.



■ Агнешка Ціханюк вучыла выконваць «кругольчыкі»

Чарга выстраілася таксама да Магды і Эвеліны — маладых жанчын, якія смажылі бульбяныя дранікі. Пах смажаных дранікаў разыходзіўся па музейнай плошчы і прыцягваў публіку пачаставацца бульбяной стравай. У краме белмузея, размешчанай у палатцы, можна было купіць беларускую літаратуру і сувеніры, між іншым, вышываныя палатняныя вырабы і пляцёнкі з саломы і лазы.

— Мае мясныя вырабы карыстаюцца попытам. Прапаную іх спажываць з хлебам і агуркамі. Мы прыпраўляем іх соллю, перцам, часнаком, няма ў іх ніякіх дадаткаў, якія паляпшаюць смак і духмянасць, і таму так смакуе наша вяндліна, — сказаў Уладзімір Ціханюк, які частаваў публіку вяндлінай, падрыхтаванай паводле сваіх рэцэптаў.

За палаткай Агнешка Ціханюк вучыла дзяўчынак выконваць з доўгіх палосак тканіны «кругольчыкі», якія дома можна засцілаць у розных месцах.



— Ужо чацвёрты раз мы ладзім этнаграфічны фестываль «Культура на сходах музея», створаны на аснове этнаграфічных фэстаў. Відаць, што ідэя фестывалю апраўдалася. Мерапрыемства прыцягвае многа публікі, якую цікавіць беларускі рэпертуар. Маладыя асобы ахвотна ўдзельнічаюць у майстар-класах па рукадзеллі і гэта таксама важны козыр нашага мерапрыемства, — сказала Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

Спачатку Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы пачаў ладзіць беларускія этнаграфічныя фэсты з цыкла «Культура на сходах музея». У час спрыяльнага надвор'я рукадзельнікі прэзентавалі свае вырабы каля будынка белмузея і там вучылі асновам сваіх заняткаў, а ў гэтым часе музычныя калектывы выступалі на сходах музея і адтуль пайшла назва мерапрыемства. Былі арганізаваны этнаграфічныя фэсты, прысвечаныя апрацоўцы льну і саломапляценню. Падчас фэсту «Не святыя гаршкі лепяць» выконваўся гліняны посуд, а мэтай «Свята беларускага хлеба» было заахвоціць пячы жытні хлеб традыцыйным спосабам. Фэст «Сто твараў лазы» паказаў як з лазы выплятаць бытавыя вырабы, а «Бульбафэст» прапагандаваў традыцыйныя бульбяныя стравы, якія ў мінулым былі падставай харчавання. Этнаграфічныя фэсты белмузей ладзіў пад кіраўніцтвам тадышняга дырэктара Яна Карпюка, а Тамаш Ціханюк быў тады працаўніком музея адказным за культурную дзейнасць і арганізацыю этнаграфічных беларускіх мерапрыемстваў. Калі Тамаш Ціханюк стаў дырэктарам белмузея, аб'яднаў этнаграфічныя фэсты ў адно штогадовае мерапрыемства, названае Беларускім этнаграфічным фестывалем «Культура на сходах музея».

— Мы рашыліся аб'яднаць беларускія этнаграфічныя фэсты ў адзін вялікі фестываль з мэтай павысіць ранг нашага мерапрыемства, сабраць на музейнай плошчы як найбольшую публіку, якой прапануем разнародныя атракцыёны, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк.

— Я прыходжу сюды паслухаць свае песні. З'еў таксама смачныя дранікі. Добра, што маладыя цікавяцца рукадзеллем, — сказаў пажылы мужчына.

Першымі на сцэне запрэзентаваліся беларускія калектывы дашкольнікаў з Гайнаўкі — «Калебка» з Самаўрадавага садка № 1 і «Сундучок» з Непублічнага садка імя свсв. Кірыла і Мяфодзія. Дашкольнікі выступілі з роднымі песнямі і танцамі, выклікаючы асаблівую зацікаўленасць публікі. Гурт «Аксель» з Беластока парадаваў гайнавян беларускімі эстраднымі творамі. Такую ж музыку выконваў калектыў «Прагрэс» з Гайнаўкі. Сенёраў да танцаў выцягнуў беларускі калектыў «Мэтро» з Гайнаўкі, у якога цікавы беларускі песенны рэпертуар.

— Калі мы засноўвалі наш гурт «Мэтро», усе жылі ў Гайнаўцы. Зараз я пражываю ў Арэшкаве, а іншыя члены калектыву таксама жывуць па-за Гайнаўкай. Спяваем нашы песні ў сваёй апрацоўцы. На фестываль мы падрыхтавалі рэпертуар, які спадабаецца і старэйшай, і малодшай публіцы, — сказаў лідар гурту «Мэтро» Данель Сакоўскі.

Пасля выступу калектыву «Мэтро» на сцэну выйшаў Адам Красько з Пасечнікаў — адзін з галоўных герояў папулярнай праграмы Польскага тэлебачання «Фермер шукае жонку». Запрэзентаваў ён частку сваёй праграмы «Фермер шоў», праспяваў песні на польскай мове, але з публікай размаўляў на мясцовай гаворцы і ў канцы свайго выступлення атрымаў гарачыя апладысменты.



■ Ірэна Ігнацюк вучыць белліцэістку Ганну Хомчук ткацтву

— Я яшчэ не падрыхтаваў песень на беларускай мове, аб чым заяўляў раней. Але гэтую задуму плану выканаць разам з асобамі, якія дапамагаюць мне рыхтаваць вакальны рэпертуар. Беларускія песні хачу спяваць у сваім клімаце, а не выступаць са звычайнымі народнымі песнямі, — сказаў мне пасля выступу Адам Красько.

З доўгай гадзіннай праграмай займальна запрэзентаваўся беларускі гайнаўскі калектыў «Давід Шымчук Бэнд», які выступіў з беларускім рэпертуарам.

— Тут пануе беларуская атмасфера, адчуваецца добры кантакт з публікай, — заявіў лідар гурту Давід Шымчук.

Публіку фестывалю асабліва захапіў гурт «Рэ1ікт» з Беларусі.

— Мы другі раз выступаем перад публікай мерапрыемства «Культура на сходах музея». Нам тут падабаецца. Дзеткі і дарослыя выступаюць цікава і нас цешыць, што тут разгортваецца беларуская культура, — сказалі ўдзельнікі гурта «Рэ1ікт», канцэрт якога завяршыў гайнаўскі этнаграфічны фестываль.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Бацькі ўжо прывыклі

*Размова з* **Таццянай СІЛЬЧЭНКА**, *дырыжорам Дзіцячага ўзорнага хору „Мінскія зоры" Сярэдняй школы № 159 у Мінску, удзельніцай XXXVI Міжнароднага фестываля царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2017".*



**— Крыху можа раскажаце пра свой хор.**
— Хор арганізаваўся каля 2000 года, арганізавала яго мая вучаніца. Я тады працавала ў Расіі, мой муж ваенны, працавала там і на Чукотцы, і на Далёкім Усходзе...

**— І Вы там таксама займаліся музыкай?**
— Так. Усюды ў мяне былі хары; я люблю сваю работу. А калі мы вярнуліся назад, дадому, мяне ўгаварылі ўзяць вось гэты калектыў „Мінскія зоры" — ён ужо быў узорны ў 2008 годзе. А па сутнасці то я працую з хлапцамі, вяду хлапечы хор да таго ж „Мінскія зоры" з дзяўчатамі. Што ж можна пра нас сказаць? Вось па Расіі відаць — 52 асобы. А мы ўсё памяншаемся, памяншаемся, усё камерныя ў нас саставы. Таму што дзяржаўныя грошы і школьныя гадзіны. Гэта звычайны школьны хор — адны займаюцца музыкай, інструментамі — палова, пяцьдзясят на пяцьдзясят.

**— Гэта не вучні музычных школ?**
— Не, гэта звычайная сярэдняя школа, таму нам складана канкурыраваць.

**— Гэта хор толькі з адной школы ці з некалькіх?**
— Толькі з адной. І ў нас ёсць такая паралель: пяты „а" клас, шосты „а" клас, сёмы „а" клас, восьмы „а" клас — усе „ашкі" — мы стараемся набіраць іх у хор, асобна хлапцоў і асобна дзяўчат.

**— І ўсе яны „ашкі"? А з класаў „б" ці „в"?**
— Яны паралельна займаюцца іншымі формамі: нехта танцуе, нехта рысуе. Гэта ўсё працуе на факультатыўнай аснове — даюць нам гадзіны; працаваць складана, бо ж на ўсё патрэбны грошы. А мы так трымаемся, стараемся, вучым, удзельнічаем, ездзім і спяваць, і спаборнічаць.

**— Далёка ездзіце? У Польшчы першы раз?**
— У Польшчу ездзім штогадова. Мы ездзілі па такіх школьных сувязях. Трапілі мы на фестываль у Пастаміна, між Дарловам і Усткай. Зараз стараемся спалучаць нашы падарожжы з адпачынкам, там ладзяцца канцэрты, мы выступаем, знаёмімся. Ездзяць у прынцыпе харысты, але ёсць сярод іх і інструменталісты і тады дапаўняем нашу канцэртную праграму творамі з удзелам інструментаў — флейта, саксафон ці іншыя. Мы спяваем і на польскай мове, стараемся, гэта ж цікава спяваць на мове арыгінала ў краіне, куды мы прыязджаем. На гэты раз не ўдалося нам сабрацца поўным саставам, а хацелася б каб было больш спевакоў.

**— Вы бываеце толькі ў Польшчы ці яшчэ ў іншых краінах?**
— Мы былі ў Днепрапятроўску, калі на Украіне было спакойна. Мы нарыхтавалі вялікую калядную праграму і нас запрасілі на Усерасійскі фестываль праваслаўных песнапенняў — ад Каляд да Каляд. Вельмі якасны фестываль, бо ж, дарэчы, духоўная музыка вельмі цікавая. Былі мы ў Пецярбургу, два разы былі ў Даўгаўпілсе. У 2015 годзе запрасілі нас у Гайнаўку. Два гады мы не маглі сабрацца. Выступаем у Беларусі. А на моры ў вас мы бываем часта. А вось на такім якасным, моцным, цікавым конкурсе мы ўпершыню.

**— А якая музыка ў рэпертуары Вашага хору?**
— Наш хор школьны і, натуральна, свецкі. Бацькі ўжо неяк прывыклі да таго, што мы спяваем розную музыку, у тым і сакральную. Былі пыталі, чаму мы спяваем такую музыку. Бо пры савецкай уладзе мы такую музыку выконвалі вельмі мала. Я, для прыкладу, у дзяцінстве такой музыкі не спявала. Таму я рада, што нашы дзеці, вучні, могуць хаця дакрануцца да гэтага вялізнага пласта тысячагадовых напрацовак. Гэта ж шырата музычнага дыяпазону, а духоўнасць — гэта найлепшая чалавечая якасць.

**— Гэта пра сакральную музыку. А свецкі рэпертуар уключае народную музыку?**
— Канешне. Мы ж удзельнічаем і ў школьных, і ў гарадскіх, і ў рэспубліканскіх, і ў міжнародных мерапрыемствах.

**— У Польшчы вы спявалі па-польску, у Латвіі, у Даўгаўпілсе па-латышску?**
— Не, у Даўгаўпілсе мы спявалі духоўную музыку. Там меншая напружанасць, больш свабодна чым у Беластоку. А спяваць сакральную музыку складана, дзеля гэтага не толькі слых патрэбны, але і адпаведны састаў хору.
**— Дзякую за размову.**

Размаўляў і сфатаграфаваў
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Музыка не падвядзе

*Размова з* **Мікалаем ГАНЬКОВЫМ**, *дырыжорам Узорнага хору „Радуга" Дзіцячай харавой школы імя Віктара Роўды з Баранавіч, удзельнікам XXXVI Міжнароднага фестываля царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2017"..*



**— У першую чаргу дзякую Вам, што ў Вашым рэпертуары вялікую долю заняла беларуская сакральная музыка. Ці на гэты факт паўплывала тое, што Вашым настаўнікам быў Віктар Роўда?**
— Так, гэта мела значэнне, але яшчэ больш значэнне меў Гай Пікарда, які з Бібліятэкі Францыска Скарыны, паслухаўшы нашых дзяўчат у Магілёве, на фестывалі „Магутны Божа", улюбіўся ў іх і стаў слаць нам ноты. А я ў Баранавічах не мог гэтых нот знайсці. Цяпер ужо ёсць, а раней — мы спяваем ужо не адзін дзясятак гадоў — мы не маглі дакрануцца да беларускай музыкі, бо яна не друкавалася, яе не было. І калі мы атрымалі, мы ўбачылі старабеларускую мову, якая нам спадабалася, яна такая мяккая, і мы спяваем з вялікім задавальненнем. І рады, што можам прыехаць у Еўропу і заспяваць на старабеларускай мове.

**— Вы ў Польшчы не ў першы раз?**
— І не другі, і не дзясяты. Мы вось тры чарговыя гады ездзілі ў Кельцы на агульнапольскі фестываль. Двойчы былі мы ўзнагароджаны „Залатой ёдлай", а пасля Міністэрства замежных спраў Польшчы запрасіла нас як гасцей.

**— „Залатая ёдла" гэта...**
— Найвышэйшая ўзнагарода.

**— Віншую. А ў Польшчы толькі ў Кельцах вы бывалі?**
— Не, не толькі. Былі ў Кракаве, а пачыналі з Пулаваў. І паціхеньку раз'язджалі па цэнтральнай Польшчы, толькі на Балтыцы не былі, неяк не атрымлівалася. Зараз мы на XXXVI гайнаўскім фестывалі. На XVIII мы былі ў Гайнаўцы і тады наш дзіцячы хор раздзяліў першае месца з Львоўскім музычным вучылішчам. І калі Мікола Бушко пазваніў нам, што даўно не чулі „Радугі", мы адказалі, што прыедзем з задавальненнем. І вось мы тут.

**— Вы бывалі не толькі ў Польшчы?**
— Мы, можа за выключэннем Францыі і Іспаніі, з'ездзілі ўсю Еўропу: Італія, Германія, Славакія, Фінляндыя...

**— Гэта былі мерапрыемствы, дзе вы зналіся месцы?**
— Не заўсёды. У Італіі мы атрымалі залаты медаль на царкоўным конкурсе, на першых харавых алімпійскіх гульнях у Лінцы мы атрымалі сярэбраны медаль у катэгорыі дзіцячых хароў з ліку пяцідзесяці шасці хароў з усіх кантынентаў. Паездкі ўсялякія бывалі — пабрацімскія сувязі, сяброўскія, з канцэртамі. Нашаму хору 33 гады, і мы, з маёй жонкай, з дня заснавання кіруем гэтым хорам.

**— А ў рэпертуары якая музыка — сакральная?..**
— Улічваючы, што гэта дзеці, у нас сем напрамкаў: духоўная нецаркоўная музыка, царкоўная асобна, прытым мы не дзелім праваслаўнай ад каталіцкай таму, што сярод дзяцей і каталікі, і праваслаўныя. Класіка, замежная музыка, народная, і аўтарскія кампазіцыі. Таму стараемся ўсю гэтую палітру развіваць, таму што даём канцэрты і часта людзі хочуць пачуць усё — і лёгкую музыку, і эстрадную. Таму рэпертуар у нас вельмі шырокі.

**— Ваш хор у прынцыпе дзіцячы. А тыя дзеці, што спявалі ў хоры раней...**
— У гэтым складзе ўжо ёсць выпускнікі. Яны закончылі нашу школу, вучацца ў Брэсце, вучацца ў Мінску, але яны прыязджаюць два разы ў месяц паспяваць, таму што яны палюбілі гэтую справу і мне прыемна з імі спатыкацца, бо гэта дзеці, якіх я вырасціў.

**— А агульна — то яны выйшлі ў шырокі свет?**
— Ну, Германія, ЗША, Нарвегія, Фінляндыя — яны раз'ехаліся, паляцелі як птушкі. Не ўсе пайшлі ў музыку — нехта ў банкаўскія справы пайшоў, нехта ў камп'ютары. А музыка гэта той жыццёвы спадарожнік, які ніколі не падвядзе, не здрадзіць, але дапаможа ў самых складаных сітуацыях. І становіць гэтых людзей — дырэктараў, прадаўцоў, лекараў больш чулымі — гэта прынцыпова важнае.

**— Вялікае Вам дзякуй.**

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Кветкі — мая радасць

Івона Езёрэк марыла мець вакол сябе многа кветак. Кожнага дня. Яны папраўляюць дрэнны настрой сваім кветкавым пахам, радуюць вочы сваёй цудоўнай прыгажосцю. Як жа прыемна пахне кветкавы адэкалон. «Кветкі — мая радасць», — кажа яна і ўсміхаецца. Так і хочацца даўжэй пабыць у яе магазіне. Сюды часта прыходзяць жанчыны. Хто як хто, а яны любяць кветкі. Любяць, калі ім дораць кветкі мужчыны. Не толькі з нагоды дня нараджэння або імянін ці Дня жанчын. Кветкі збліжаюць людзей. Яны спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты.

Спадарыня Івона ўжо трэці год паспяхова вядзе кветкавы магазін па вуліцы Гайнаўскай у Нараўцы Гайнаўскага павета. Яе крама адзіная такога роду ў Нараўчанскай гміне. Кветак у яе столькі, што выбіраць ды выбіраць. Тут і белыя, чырвоныя і жоўтыя ружы, і чырвоныя гваздзікі, і маргарыткі, і пахучыя лііліі, і г.зв. папроткі. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Ёсць у кветніцах і без іх. У вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў ятрышнікі (storczyki) і бягоніі. У краме ёсць таксама экзатычныя кветкі, назвы якіх цяжка запісаць і яшчэ цяжэй вымавіць. Тут можна купіць гатовыя вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем.

З Беластокаі з Высокага-Мазавецкага кветачніца прывозіць сваім пакупнікам па заказе таксама кветкі на рабаткі, дэкаратыўныя кусты, шматгадовыя расліны, розных відаў пладаносныя дрэўцы і г.д.

## Усё больш камунальных кватэр

У Беластоку, як нідзе ў іншым горадзе ў Польшчы, пабудавалі многа камунальных кватэр. У пачатку чэрвеня гэтага года 32 сем'і атрымалі ключы да новых кватэр у адным жылым блоку па вуліцы Барсучай на пасёлку Дайліды. Усе яны вельмі задаволеныя, цешацца і спраўляюць наваселлі. Кватэры тут велічынёю ад 23 да 73 квадратных метраў жылплошчы ў добрым стандарце. Гэтая інвестыцыя каштавала каля чатырох мільёнаў злотых. Пры блоку ёсць 29 месцаў для аўтамабіляў. Гэты камунальны шматсямейны будынак чацвёрты пры вуліцы Барсучай пабудаваны на працягу трох апошніх гадоў.

Запатрабаванне на камунальныя кватэры ў ваяводскай метраполіі — вялікае. Зараз чакае іх 50 асоб. Апрача таго г.зв. сацыяльных кватэр (яны ў зніжаным стандарце) чакае больш паўтысячы чалавек.

Варта дадаць, што ў 2015 годзе ў жылых блоках па вуліцы Барсучай здалі ў карыстанне 83 новыя камунальныя кватэры. Такія кватэры ўвесь час запатрабаваныя. Іх паспяхова будуе гміна.

## У „Свойскай хаце"

Сталовая пад назвай „Свойская хата" ў Нараўцы Гайнаўскага павета існуе ад мая мінулага года. Знаходзіцца яна ў прасторным будынку з тэрасай у маляўнічым месцы на правым беразе ракі Нараўкі. Прыемна тут і ўтульна. У „Свойскай хаце" мясцовыя пенсіянеры ладзяць раз або два разы ў год танцавальныя вечарыны. Такое культурна-забаўляльнае мерапрыемства адбылося сёлета ў канцы мая.

У чэрвені гэтага года я прыязджаў у „Свойскую хату" на абеды (сталовую адкрываюць а гадзіне дванаццатай). Абеды тут смачныя і яны — як кажуць афіцыянткі — дамашнія. Паводле мяне яны дарагаватыя. У „Свойскай хаце" я плаціў за абеды два разы па 19 злотых і 10 чэрвеня — 25 злотых (узяў, апрача супу і г.зв. другой стравы, кампот). У Гайнаўцы ў прыватным бары Ажахоўскага па вуліцы Варшаўскай поўны абед каштуе 17 злотых. Зараз у бары „Сонечны" ў Беластоку па вуліцы Сянкевіча я абедаю за 12 або 14 злотых. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# У Беластоку танчылі, ігралі спектаклі, спявалі...





Інструктар «Падляшскага вянка» Аксана Прус





Прыемна глядзець на спектакль, калі там сапраўдныя словы і эмоцыі, абдуманыя жэсты і крокі, адпаведныя касцюмы і рэквізіты. І калі на публіцы шмат сардэчных людзей, якія з дрыжачым сэрцам хвалююцца пра наш поспех, а пасля не шкадуюць гучных апладысментаў.

Так было ў Беластоку.

Мова пра мастацкія прэзентацыі, якія кожны год ладзіць аб'яднанне АБ-БА напрыканцы школьнага навучальнага года. Гэтага дня чакаюць усе дзеці і бацькі, дзядулі і бабулі, сваякі і сябры. У гэты раз свята праходзіла ва Універсітэцкім цэнтры культуры, што па вуліцы К. Цыялкоўскага, 5 чэрвеня г.г., у дзень Еўфрасінні Полацкай. Разам адзначалася 20-годдзе навучання беларускай мове ў Беластоку. Барбара Пякарская, першая старшыня Аб'яднання, прыгадала прозвішчы настаўнікаў: Аліны Ваўранюк, Альжбеты Рудкоўскай, Іанны Васілюк і Іны Венцко, якія суправаджаюць адукацыйны працэс ад пачатковай школы па ліцэй. Сардэчныя словы падзякі былі накіраваны ў адрас дырэктара беластоцкай «чацвёркі» Збігнева Клімовіча, дырэктар беларускага садка Луцыі Неміровіч, Данунце Курань з Народнага ўніверсітэта ў Тэрэміскіх ды іншым:

— Дзякуючы вам, нашы дзеці годна ідуць праз свет і бачаць людзей! — гаварыла Барбара Пякарская.

Паміж выступленнямі, які цягнуліся больш за тры гадзіны, быў зачытаны даклад пра 100 гадоў беларускага школьніцтва ў Беластоку. Былі таксама падарункі, кветкі, словы і выступленні гасцей. А ўсё пачалося з танцаў «Падляшскага вянка». Сёння засяродзімся на гэтым праекце, які можна назваць мастацкай візіткай аб'яднання АБ-БА.

* * *

Яшчэ ў пачатку года ўзніклі страх і сумненні — ці аб'яднанне атрымае датацыю на «Падляшскі вянок». Гэты каларытны, танцавальны калектыў у хуткім часе заваяваў сэрцы дзяцей і бацькоў. У іх рэпертуары ўжо шмат беларускіх танцаў. Але не гэта ўразіла нас найбольш! Кожны раз, калі выходзяць на сцэну, паказваюць новыя творы. З кожнай рэпетыцыяй у іх лепшая тэхніка, дапрацаваныя крокі і дэталі. Многія выступленні і поспехі спрыяюць сцэнічнай упэўненасці.

Вось і зараз «Падляшскі вянок», а дакладна дзяўчаткі, грацыёзна станцавалі купальскую кампазіцыю. Яе суправаджала мілагучнае сола Марысі Пякарскай. Хлопцы, не былі горшыя. У іх захапляльным выкананні публіка пабачыла надта мужчынскі танец «Казак» і проста ашалела ад захаплення. Гэты дынамічны казацкі танец быў таксама спалучаны з казацкай песняй, якую з рускай на беларускую мову пераклала Юля Косціна ды праспяваў Кірыл Ліпай, музычны апякун гурту «Баламуткі».

«Падляшскі вянок» вядзе Аксана Прус. У аб'яднанні ганарацца, што заняткі па танцах адбываюцца па-беларуску. Тут дзеці не толькі прыгожа танчаць і вяселяцца, але адначасова вывучаюць словы, звязаныя з гэтым прыемным заняткам.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

*PS. Пра іншыя выступленні чытайце ў наступных нумарах «Зоркі».*

## УВАГА КОНКУРС! № 25-17

**За мармышку хаваецца,**
**На жылцы целяпаецца,**
**І бывае, назнарок**
**Яго схопіць печкурок.**
**Ч.....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 2 ліпеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 21-17: гусак. Узнагароды, кніжку «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, выйгралі Давід Ясюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і Вольга Кардаш з Нарвы. Віншуем!**

**Паўліна Ёдла,**
ПШ № 3
у Бельску-Падляшскім

## Бура-шура!

Зашумела, загрымела,
Стала цёпла на двары.
Кроплі дажджу
з цёмнай хмары,
Усе ляцелі да зямлі.

Гром на небе так грукоча,
Усе хаваюцца ў двары.
А на вуліцы брыняюць
Лужы дажджу цэлы час.

Грыміць неба, сунуць хмары,
Страшна, сумна на зямлі
Кожны з нас так перажывае,
І баіцца нават спаць.

Дык па буры сонца ўсходзіць.
І вясёлка ў небе вісіць.
Свежы водар мы глытаем
І пра буру забываем.




Расквецім гісторыю Беларусі

## Грунвальд 1410, Вітаўт і Ягайла

Вялікія князі Вітаўт і Ягайла — сваякі, якія часта з сабой спаборнічалі. Яны ачолілі дзве вялікія саюзныя дзяржавы: Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае.

У 1410 годзе супольна ваявалі з крыжаносцамі і дабіліся перамогі ў бітве пад Грунвальдам. Пасля іх перамогі страціў мілітарнае значэнне агрэсіўны ордэн тэўтонцаў. Такім чынам знікла пагроза на некалькі стагоддзяў варожых наездаў з захаду Еўропы.

Ад караля Ягайлы пайшла польская дынастыя Ягелонаў.

Гэтае імя носяць многія вуліцы гарадоў і кварталаў, дамы культуры, а таксама спартыўныя клубы. Ну, але пра апошнюю рэч вы самі добра ведаеце!

**(гак)**

## Ці будзе каханне ў XXII стагоддзі?



Фота Ганны Кандрацюк

Калі мы былі ў вашым узросце, пісалі сачыненні на тэму: Як будзе выглядаць свет у XXI стагоддзі? І, ведаеце, тады ўсе думалі, што ў XXI стагоддзі мы ўсе будзем лётаць у космас. А гэта было сорак гадоў таму назад, — пачаў Яўген Вапа на сустрэчы з бельскімі гімназістамі. — Мы гаварылі пра падарожжы ў космас, але не прадбачылі, што ў XXI стагоддзі хлопец з дзяўчынай на рандэву сядуць пры адным століку і будуць пісаць да сябе праз смартфоны...

Іншы госць сустрэчы, паэт Андрэй Сцепанюк адразу паставіў не менш касмічнае пытанне, у якім быў намёк на камунікацыю пры дапамозе смартфонаў:

— Як думаеце, ці ў XXII стагоддзі будзе яшчэ каханне?

— Może nie być, — згодна заявілі гімназісты. Сам космас не падаўся ім страшны ці недаступны.

— Oni nie są zagrożeniem! — разважалі маладыя пра іншапланецян. Магчыма так уплываюць на спосаб думання фільмы тыпу «Зорныя войны» ці фантастычная літаратура, якую чытаюць гімназісты...

Аднак сапраўднай тэмай сустрэчы было пытанне прысутнасці беларусаў Падляшша ў свеце. Аказваецца, што нават без ведання мовы продкаў (амаль усе гімназісты заявілі, што разумеюць мову вясковых сваякоў), моладзь вельмі прывязаная да свайго горада, духовай культуры, прыроды, сяброў. І выснова была такая, што разважанні пра касмічныя палёты і далёкую будучыню файныя, аднак трэба назіраць свой рэальны свет, размаўляць з сябрамі, не згубіць роднай мовы і тоеснасці. Без гэтага чалавек знікне ў тым жа цудоўным космасе. А сярод моладзі найбольш вылучаўся Каміль Таранта. Хлопец пахваліўся веданнем гаворкі з Кашалёў, адкуль яго продкі, і ведаў адказ на кожнае пытанне.

**ЗОРКА**

# Польска-беларуская крыжаванка № 25-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21-17:**

Куст, шал, сонца, міг, бо, шпінат, жак, парасон, кава, акіян, кажан, зрок.

Кіт, шпак, пава, міраж, міна, Гасан, ток, лоб, ніз, нож, яр, парк.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Бароўская, Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Наталля Ніканюк, Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Габрыела Крупіч, Зузя Кардзюкевіч з** НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Ізабела Рышкель** з Шудзялава, **Моніка Суровец** з Бабік, **Караліна Чарняўская** з Орлі, **Матвей Зыскоўскі** з КШ № 1 ў Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Małpa | | Tata<br>Herb | | Dawno | Zadanie | |
| Zagadka<br>Poczta | | | | | | | |
| | Lato | | | | | Los | |
| | Prawda | | | | | | |
| | | | | Noc | | | |
| | Sztab | Okno | Koło | | | | |
| | | | | | Ja | | |

**Славамір КУЛІК**
*Гайнаўка*



## Пожня

*Пожня ў Грабаўцы
Памятая камбайнамі.
Каласы пападалі на зямлю.
Няма пашаны для хлеба.*

*Хвіліна даўно прайшла
На лепшую старану,
Няма каму расказваць
Дзедкам казак і легендаў.*

*Знаёмыя сцежкі заразлі.
Лес падыходзіць пад хаты.
Суседзі і знаёмыя адышлі.
Над вёскай кружыць воран крылаты.*

*Васіль ідзе па пожні.
Успамінае маладое збожжа,
Усе гады, зімы і вёсны.
О Божа, як было тут прыгожа.*

## Захад сонца ў Дубічах

*Янка, давай паглядзім
У той самы бок.
У вочы б'юць чырвоныя
Прамяні заходзячага сонца.*

*У далечыні Тафілаўцы
Схаваліся ў даліне Орлі.
Дзве хаты свецяць новай страхой,
Астатнія знікаюць у змроку.*

*Наша вёска не спіць,
Шорах на панадворках,
Людзі на лавачках.
Жыве вёска, жыве.*

*Пачакаем наступнага заходу?
Ці будзе ён такі самы?
Ці прынясе новае, добрае?
Пачакай, Янка, пачакай.*

## Ачараванне

*Ён анямеў
Убачыўшы яе твар
Яна пачула
Лёгкасць ног*

*Засвяцілі зоркі
У яго вачах
Цяпер знямога
Ахапіла яе цела*

*Ці будзе з гэтага
Добры хлеб?
Ёсць добрая рошчына
На гэты конт?*

## Малая айчына

*Пахілены крыж
Успомніць гісторыю
Камень на раздарожжы
Прывядзе легенды*

*Зайграе аркестр
Магутнага лесу
Дарожка давядзе
У знаёмыя прасторы*

*Загучыць ласкава
Блізкае слова
Паплыве і народ
Родная мова*

## Белы конь

*Войнаўка ў першых
Промнях летняга сонца
Цішыню перарываюць
Спяваючыя пеўні.*

*Пустыню вуліцы
Замятае халодненькі ветрык
Хаты штодзённа будзяцца
Папыхваючы дымнікамі.*

*Раптам у цішыню
Урываецца тупат каня
На ўзгорку галопам
Бяжыць белы конь.*

*На белым кані
Мішка з буйнай чупрынай
Хвалюючай на ветры
Прачынаюся. Гэта быў сон.*

Дэбют



**Марыя Беата ЯГАДЗІНСКАЯ**
*Мінск-Мазавецкі*

## Абломкі сацыялізму

*Добра – гэта дрэнна,
Дрэнна – гэта добра.
Не ведаю, ці я памяркоўная,
Таму адчуваю сябе цудоўна.*

*Абломкі сацыялізму
Затрымаліся ў натоўпе цел,
Гэта рэшткі камунізму,
Сталін! Мой ты анёл!*

*Цьфу! Што я гавару,
Вось трэба бізнес рабіць.
Ён павінен у пекла падаць,
А я выношу яго да неба?*

*Учора мы былі ворагамі,
Сёння мы партнёры,
Гэта грошы кіруюць намі,
Долары сталі жыцця гаспадарамі.*

*Ці тады было горш?
Напэўна, нельга было на вуліцу
Выходзіць позняй гадзінай.
Рэдка хадзілі таксама ў капліцу...*

*Калі былі праблемы,
Не гаварылі аб гэтым;
Трэба было ціха сядзець
І як найменш бачыць.*

*Але, колькі тады мы чыталі!
Для кніг у чэргах стаялі,
Магчыма, не было дастаткова печыва,
Аднак усім яго хапала.*

*Кожнаму давалі аднолькава
І так прабіраліся, не ведаючы,
У дактрыну сваю згубную,
Пакуль капіталізм не з'явіўся.*

*Цяпер тое, што выйграеш,
Ужо тваё.
Будзеш гаспадарлівы,
Атрымаеш сваё.*

*Гонка пацукоў
Выклікае змешаныя пачуцці.
На жаль, кожны мусіць у гэта ўвайсці.
Мусіць? Так, бо мы жывем у «Русі».*

## Нашы часы

*як гэта цяжка
не прайсці міма
сумнага чалавека
запытацца
што здарылася?
як гэта магчыма?
І дапамагчы
праўда?
Як гэта цяжка
сказаць
даруйце
прашу прабачэння
або: калі ласка
ці дзякуй
простае слова
усё ж няпростае
бо трэба быць шчырым
ці не так?*

*Як гэта сорамна
падысці да іншага
гаварыць нармальна
на сваёй мове
ці гэта добра
што нам усё роўна?
Кватэра жонка
нават радзіма...
цяпер іх колькасць
вялікая
занадта вялікая*

*у наш час дрэнна
быць шчырым
кахаць сур'ёзна
жыць упэўнена
лепш пакрыўдзіцца на ўсё
мець кепскую працу
і вечна наракаць*

* * *

*Хто створыць сям'ю
Хто аб гэтым скажа*

*Замест слухаць генеральскіх
мудрасцей
Спытайце ў маладых радавых
Як гэта было ў ашаламленні
ўтопіяй
Глядзець каб забіць
Аднагодка*

**Анна КАНДРАЦЮК**
*Дубіны*

## Сэнс

*Сяджу...
самотная, хаця сярод людзей.
Сваіх...
аднак чужых сэрцам і думкамі.
Хачу зразумець іх...
аднак не ўмею,
бо...
не так думаю,
не так гавару,
не ўмею слухаць.
Ці хачу зразумець?
Не!
Ужо нават не стараюся.*

## Жыццё

*Кажуць, што жыццё бяжыць.
Аглядаюся,
Пуста.
Быць можа ўжо за паваротам
і таму не відаць.
А можа пабегла ў другое месца?
А можа яго дарога скончылася?
Добра, што гэта не мая дарога.
Кажуць, што час
пераліваецца праз пальцы.
Гляджу на рукі.
Дзіўна...
Рукі сухія.
Не, гэта не мае рукі!
Не пазнаю іх.
Гэта рукі бабулі.
А ў мяне ж сэрца маладое.
Яно ўвесь час кахае,
б'е моцна,
калі ўбачу найдаражэйшых –
Маю Сям'ю.*

## Рэчаіснасць

*Узляцець на крылах мараў
Высока, за хмары.
Глядзець на зямлю,
якая цяжка дыхае
пасля праліўнога дажджу.*

*Спакойна спаглядаць уніз.*

*Добра так,
спакойна, ціха, ляніва.
А зямля працуе.
Выкідае са свайго нутра
кроплі вады.*

*Зямля дыхае.
І кроплі дажджу ўзносяцца
над домам,
над лесам,
над хмары.
Крылы маіх мар вільгатнеюць,
склейваюцца.
Падаю на зямлю
і прападаюць мае крылы шчасця.
...
Рэчаіснасць.*

# Аўгустаўскія цэрквы

Памятная кніга Сувальскай губерні ад 1885 года пісала, што паводле захаваных у архівах дакументаў, у 1569 годзе па загадзе караля Жыгімонта Аўгуста была пабудавана ў Аўгуставе царква пад заступніцтвам Багародзіцы, якая мела тады яшчэ стаяць на акраіне горада. Кніга падае, што ў міжчасе царква была пераназвана на Праабражэнскую; магчыма, што з далучэннем да Берасцейскай уніі. Была гэта невялікая царква і калі ў палове 1870-х гадоў узнікла пытанне ўстаўлення ў царкоўку іканастаса, апекуны царквы заявілі, што гэта немагчыма з-за цеснаты, а і без яго можа ўмясціць толькі 44 чалавек. Наспявала рашэнне пабудаваць у Аўгуставе мураваную царкву. Спярша, аднак, была перабудавана старая ўніяцкая царква, якая з паралельным пераходам на праваслаўе атрымала імя Казанскай іконы Багародзіцы, але і яна аказалася надта цеснай.

Пасля Студзеньскага паўстання на „мяцежніцкія" тэрыторыі прыбывае больш царскага войска і больш царскіх чыноўнікаў. Яны патрабуюць такой жа духоўнай стравы, што і раней... У 1881 годзе распачалася пабудова новай мураванай царквы на гарадскім рынку; пабудова была завершана тры гады пазней, яе заступнікамі сталі апосталы Пётр і Павел. Была гэта тыповая царква ў выглядзе „карабля", з адным купалам і званіцай з шасцю званамі. Адзін звон важыў 25 пудоў, другі на дзесяць пудоў менш; гэты быў прысвечаны цару-пакутніку Аляксандру ІІ, пры якім было прынята рашэнне пабудаваць храм, і апрача эпітафіі яму быў на ім выгравіраваны яго партрэт. Чатыры апошнія званы былі меншых памераў.

Набірала пад Бісмаркам сілу Германская імперыя, царскія ўлады паступова ўзмацняюць заходнія рубяжы дзяржавы, кіруючы туды штораз больш войска. І ў Аўгуставе фармуецца магутны гарнізон, на ўсходніх акраінах горада з'яўляюцца тысячы расійскіх ваякаў. У канцы XIX стагоддзя будуюцца там казармы, узводзіцца таксама ў 1896-1907 гг. новая мураваная царква пад заступніцтвам Мікалая Цудатворца...

Улетку 1914 года ўспыхвае Першая сусветная вайна, а годам пазней царскае войска адступае, ды амаль паралельна яму эвакуіруецца на ўсход праваслаўнае насельніцтва; у Аўгуставе мяняецца канфесійны краявід... Пасля вайны ранейшае ўніяцкае навакольнае насельніцтва, якое ў 1875 годзе было пераведзена на праваслаўны абрад, масава пераходзіць у каталіцтва, праваслаўныя храмы пусцеюць...

Новыя ўлады прыступаюць да замацавання новага грамадскага ландшафту. У 1925 годзе пабудаваная сорак адзін год раней на цэнтральнай плошчы горада Петрапаўлаўская царква зносіцца; будаўнічы матэрыял ад яе паслужыць зараз жа для ўзвядзення будынка настаўніцкай семінарыі.

Драўляная царква Казанскай іконы Багародзіцы стаяла закрытай і гібела. У 1937 годзе Мечыслаў Арловіч так пісаў: „Augustów posiadał dwie cerkwie. Cerkiew prawosławna została rozebrana w 1925 r. Nad brzegami Netty stoi niewielka stara cerkiew drewniana, niegdyś unicka, bardzo malownicza, lecz obecnie opuszczona i chyląca się do ruiny". Намаганні праваслаўных вернікаў, якіх у той час асталося ў Аўгуставе каля дзвюх сотак, прызначыць храм для іх патрэб, не давалі станоўчых вынікаў. Калі насталі саветы, драўляная царква была знесена, а пры немцах грунт, дзе яна знаходзілася, быў ніveліраваны. Грунты ў вобрубе вёскі Жарнова, якія прыход атрымаў яшчэ ад караля Жыгімонта Аўгуста, пераняла дзяржава і надзяліла імі сялян гэтай вёскі.

Інакш склаўся лёс гарнізоннай царквы Мікалая Цудатворцы. У 1918 годзе храм становіцца філіяльным касцёлам адной з каталіцкіх парафій. У пачатку 1920-х гадоў у Аўгуставе размяшчаецца Крэхавецкі полк уланаў, які пераймае былую царкву на гарнізонны касцёл; асвячэнне новага храма адбываецца ў 1927 годзе, аднак вонкавы выгляд храма мала змяняецца. Больш істотныя змены наступаюць з увходам саветаў у 1939 годзе. Месца крыжа займае чырвоная зорка, а храм становіцца спачатку салдацкай святліцай, дзе ладзіліся забаўляльныя мерапрыемствы, а пасля была там стайня і склад. Пры немцах сітуацыя ў прынцыпе не змянілася.

У ходзе ваенных дзеянняў у 1944 годзе храм быў значна знішчаны: былі знішчаны купал з вежай і дах. Пасля вайны будынак выкарыстоўваўся як склад збожжа, а пасля сыравіны для абутковай фабрыкі. З прыходам палітычнай адлігі ў 1956 годзе будынак быў перададзены парафіі, да якой належаў у міжваенны перыяд, і ўжо ў маі наступнага года адбылося там першае пасля вайны набажэнства. Паступова праводзіўся рамонт храма. У 1987 годзе была завершана пабудова вежы-званіцы. У 1990 годзе на аснове касцёла была заснавана парафія Чанстахоўскай Маткі Боскай.

З прыходам палітычнай адлігі ў 1956 годзе стала магчымым навучанне ў школах рэлігіі. З таго часу запамяталася мне, што царква мае агульны кшталт карабля дзеля нагадвання пра Ноеў ратавальны каўчэг, які мае ратаваць людзей ад патанання ў бязбожніцтве. Вось і аўгустаўскі „чанстахоўскі" храм атрымаў у выніку апошняй перабудовы кшталт, які ў агульнасці можна асацыяваць з караблём з вельмі высокай вежай-мачтай. Але мне гэтая „мачта" вельмі нагадвае ракету „Васток", на якой Гагарын паляцеў у космас; яна ж была ўзведзена 26 гадоў пасля таго першага касмічнага палёту... І ці ў гэтым вось выпадку гэтая „ракета" не сімвалізуе напрамку ў неба? У Нябёсы?.. У архітэктурным сэнсе гэта нейкі „фрыстайл", дзе мадэрная вежа значна адрозніваецца ад візантыйскай асновы, але ці гэта не такая ж розніца, якая выступае між сакрум і прафанум; апошняе, вядома, ніжэй...

Гартаючы старонкі манаграфіі Аўгустава аўтарства Ярослава Шляшынскага, кінуўся мне ў вочы наступны тэкст: „Ludność, jak widać z zachowanych spisów, była w większości polska. (...) Pod wpływem osadnictwa mazowieckiego ludność Augustowa przyjęła dialekt mazowiecki, zachowując pewne ślady języka białoruskiego. Przekształceniom uległy także nazwiska białoruskie, które straciły dawne brzmienie, zbliżając się do nazwisk szlacheckich, np. Omelian — Milanowski, Dyć — Dyczewski, Horoszko — Choroszewski, Sieńko — Sieńkowski, Dzienis — Dzieniszewski...". З насельніцтвам адбылося нешта накшталт метамарфозы колішняй гарнізоннай царквы.

Не вельмі далёка ад нас, у Лашы, што зараз у Гродзенскім раёне, нарадзіўся ў першы дзень 1861 года Яўхім Карскі, філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага моваязнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Хто ж лепш ад яго мог ведаць пра акружаючае Гродна насельніцтва? Вікіпедыя: „Акрэсліў этнічныя межы беларускага народа, даў этнаграфічную карту Беларусі пач. XX ст.". І вось на той карце Карскага беларускамоўны абшар падыходзіць упрытык да самога Аўгустава з паўднёва-ўсходняга боку. Цягам стагоддзя грамадскі ландшафт — моўны і канфесійны — на тым жа баку таксама ахапіла метамарфоза...

Метамарфоза дзейнічала ў адным напрамку, а осмас у іншым, і ў выніку апошняга ў Аўгуставе ўсё ж прысутнічалі вернікі ўсходняга абраду. І ім прыходзілася задавальняць свае рэлігійныя патрэбы амаль так, як рабілі гэта першыя хрысціяне. У санацыйны час не было ў Аўгуставе месца для іхняй малітвы. Туга было і ў эпоху камуны...

Айцец Васілій Шклярук, які ў пачатку 1960-х гадоў апекаваўся тамашняй праваслаўнай паствай, сказаў мне, што набажэнствы адбываліся ў жылой кватэры, у большым пакоі. Быў там антымінс, была Біблія. Службы ў Аўгуставе правіліся раз у месяц, на набажэнствы збіралася каля трыццаці вернікаў. А ў 1984 годзе была для гэтай абшчыны прызначана невялічкая мураванка на задворках галоўнай плошчы Аўгустава — плошчы Жыгімонта Аўгуста; у будынку раней працавала вулканізацыйная майстэрня. Сціплы будынак да гэтай пары адыгрывае ролю царквы.

Запар з наступіўшай у апошніх дзесяцігоддзях эпохай сакральнага будаўніцтва пусціла парасткі і думка ўзвесці і ў Аўгуставе асобную царкву — чарговую ў гісторыі. Царква атрымала пляц на заходніх акраінах горада, па вуліцы Мазурскай. Будова пачалася ў мінулым годзе, паралельна растуць сцены невялікай царквы і плябаніі. Асвячэнне краевугольнага каменя адбылося ў нядзелю 28 мая...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Касцёл Чанстахоўскай Маткі Боскай


Тут адпраўляюцца набжэнствы


На месцы фантана стаяла Петрапаўлаўская царква


Тут будуецца новая царква

# Засталіся адно ўспаміны (8)

У пачатках шасцідзясятых гадоў у Ласінцы не было электратоку. Кінасеансы дэманстраваліся ў школе, прыводзячы ў рух агрэгат. Ласінка лічылася тады грамадскім цэнтрам. Працавала тут сямікласная школа, Грамадская рада нарадовая, бібліятэка, вясковая крама са спіртнымі напіткамі. Загадчыкам школы з'яўляўся Сяргей Бароўскі. Ягоная жонка, Крыся, займалася школьным гарцэрскім атрадам. У Ласінку заязджалі ў пачатках, калі не было электрычнасці. Пасля электрыфікацыі сяло стала абслугоўваць сталае кіно з Нарвы. З Сяргеем Бароўскім у пазнейшых гадах сустракаліся мы ў Гайнаўцы, дзе працаваў ён штатным працаўніком Адзела культуры і асветы. З Ласінкі наша кінаперасоўка праязджала ў Барысаўку. Абедзве вёскі прылягалі да ваяводскай дарогі Беласток — Гайнаўка. Была гэта, прыпамінаецца, брукаванка. На зломе 1962/1963 гадоў, у гэтак званую зіму стагоддзя, на прамежку паміж Ласінкай і Барысаўкай наша брыгада праходзіла «баявое хрышчэнне» ў змаганні са снежнымі сумётамі («Прыгадалася зіма стагоддзя» — «Ніва» № 4 ад 22 студзеня 2017 г.). Сямікласную школу ўзначальваў кіраўнік Гацута. Пражываў ён у школьным будынку з жонкай, таксама настаўніцай. Яна была пастаянным гледачом, любіла кіно і сяброўскія размовы з кіношнікамі. У Барысаўцы вучыліся дзеткі з Рэпіскаў. З мясцовых настаўнікаў запамятаўся Мікалай Міхалюк. Выходзіў ён з Курашава. Наша знаёмства з барысаўскім настаўнікам доўжыцца па сённяшні дзень, паколькі Міхалюк перавёўся на стала ў Чарому, дзе быў шматгадовым дырэктарам Пачатковай школы. Зараз ён пенсіянер.

Рэнек — кіраўнік кінаперасоўкі, які заязджаў у Дубяжын, 1958г.

Навасады ў маршруце нашай брыгады былі нядоўга. Хутка пачало іх абслугоўваць сталае кіно з Дубін. З таго, што запамяталася, з Навасад выходзіў мой сардэчны калега Янка Гіншт, кіраўнік кінаперасоўкі. З суседніх Дубін выходзіў яшчэ кіношнік Скепка, але з гэтым мы сустракаліся адно ў дзень палучак.

З Гайнаўкі кіраваліся мы ў пушчанскія сёлы Буды і Тэрамісkі. У абодвух вёсках не было электратоку, тады запускалі агрэгат. Сяло Буды невялікае, крыху больш за пяцьдзясят дамоў. Усе католікі, адно сям'я лесніка Качана была праваслаўнай. У Будах кінасеансы дэманстравалі ў вясковай святліцы. Зала абагравалася кафлянай печкай. У зімовы час ногі замярзалі. Прыходзілася сядзець у доўгім кажуху і ў лямцовых ботах. На кінасеансы прыходзіла няшмат гледачоў. Каб неТэрамісkі, мы не заязджалі б штомесячна ў гэту вёску. Але ў Тэрамісках мы карысталіся дружалюбным прыёмам. Вёска мяшаная, палова католікаў, палова праваслаўных. Калі ўпершыню завіталі ў сяло, дык зразу падаліся ў мясцовую краму. Шафёр з механікам зарэкамендавалі мяне прадаўшчыцы як навічка. Сімпатычную бландзінку клікалі Ядзяй. Жыла яна з прыстарэлай матуляй у мяжуючай з крамай сядзібе. У час размовы я зразу не мог уцяміць, хто католік, хто праваслаўны. Наведвальнікі ў краме размаўлялі на беларускай гаворцы. Па ранішнім сеансе для школьнікаў мы падаліся ў краму, а кінамеханік Чарнянін з шафёрам Скепкам — да паляўнічага, лоўчага Уладка Вішнеўскага. Ён лічыўся іхнім сталым гаспадаром. У Вішнеўскіх былі дзве дачкі. Памятаю, што малодшаю клікалі Тэрэзай. Я быў запрошаны прадаўшчыцай на абед, затым на начлег. Да прадаўшчыцы на абед заходзіў я чарговыя два месяцы, пакуль не пазнаёміўся з братамі Смактуновічамі — старэйшым Васілём і малодшым Юркам.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

PS. У допісе «Засталіся адно ўспаміны (3)» была дапушчана памылка. Было напісана: «У Нарваўскай гміне былі гэта Іванкі-Рагазы, Янова, Гародчына, Соцы, Ласінка і Трывежа; у Чыжоў скай гміне: Камень, Ласінка». Павінна быць: «...у Чыжоўскай гміне: Камень і Курашава». За памылку прашу прабачэння ў рэдакцыі і чытачоў.

# http://svajksta.by

Калісьці нашы продкі былі паганцамі — верылі, што багоў у свеце многа, сярод іх Даждог, Сварог, Пярун, Ярыла і так далей. Паўсюдна былі расстаўлены каменныя альбо драўляныя ідалы, якія, па меркаванні старажытных насельнікаў беларускай зямлі, уласна і ўвасаблялі гэтых персанажаў. Больш за тысячу гадоў прайшло з той пары, як пахрысцілася стараданяя Русь, але дагэтуль застаецца цікавасць у нашых сучаснікаў да асаблівасцей жыцця продкаў.

Зараз у інтэрнэце існуе безліч сайтаў, якія распавядаюць пра паганства. Ёсць нават разнастайныя парталы так званых роднавераў, гэта значыць неапаганцаў, якія, адмаўляючы адзінабожжа, сцвярджаюць, што багамі з'яўляюцца, напрыклад, сонца, вецер ці дрэвы. На многіх парталах не столькі вывучаецца ці распавядаецца пра старадаўнія звычаі, колькі яскрава прасочваецца мэта ўцягнення людзей у неапаганскае кола. Разам з тым працуюць сайты, дзе паважліва распавядаецца пра паганства як частку гісторыі, якая, несумненна, мае наўпроставы ўплыў на сучаснае жыццё. Адным з такіх інтэрнэт-рэсурсаў можна назваць сайт „Svajksta", што месціцца па адрасе **http://svajksta.by.**

„Свайкста — слова са старапрускай мовы, значыць „святло". Латышская, літоўская і беларуская мовы маюць падобныя словы — zvaigzne, žvaigždė, звязда — у значэнні "зорка". Пачынаем у самую калядную пару, калі „на небе сыплецца сярэбраны гарох" (Т. Кляшторны).

Гэта час зораў, час асобных нябесных агеньчыкаў, начных свечачак, што пазіраюць згары вачыма дзядоў. Яны нагадваюць, што яны — там, а мы — тут; што іх свет — расцярушаны, а ў нашым мусім рупіцца збіраннем і дастасаваннем, каб наш свет жыў у ладзе і мы былі ў ладзе з ім. Працуйма — і дачакаемся, як, па словах паэта, „рассыплюць золата над рэчкаю каліны", — гэтак не зусім зразумела прадстаўляюць свой сайт аматары паганскай даўніны. Дарэчы, дакладна даведацца пра тое, што сайт мае дачыненне да паганства, можна толькі зазірнуўшы на яго старонку ў фейсбуку, бо знайсці пацвярджэнне гэтаму на „Свайксце" немагчыма.

„Старабалцкі (старапрускі) бог святла і сонечных промняў Свайксцік (Suaixtix) будзе нам нябёсным апекуном нашай дзейнасці", — упэўнены ўладальнікі сайта. Ці дапамагае ім паганскі бог, цяжка сказаць адназначна, бо з моманту з'яўлення сайта ў 2012 годзе вялікіх поспехаў у насычэнні інфармацыяй там не бачна.

Варта адзначыць, што акрамя „паганскай накіраванасці" сайта яскрава прасочваецца і этнаграфічны акцэнт пра тое, што беларусы — гэта славянізаваныя балты. Такое сцвярджэнне — адна з гіпотэз, але ў артыкуле „Беларуская — мова балцкіх земляў на ўсходзе" прыводзіцца нешта кшталту доказу. „Такім чынам рэальны распаўсюд протабеларускай мовы сягаў усіх тых тэрыторыяў, дзе адбываўся балта-славянскі кантакт", — гаворыцца там і адзначаецца, што колішні балцкі абшар да нашэсця славянскай мовы амаль ідэальна накладаецца на тэрыторыю распаўсюду беларускіх гаворак паводле этнографа Яўхіма Карскага і нават паводле больш ранніх даследчыкаў.

Акрамя сайта і старонак у сацыяльных сетках, „Свайкста" гэта яшчэ і папяровы часопіс, першы нумар якога аб'ядноўвае 2016 і 2017 гады. Набыць яго можна ў Мінску альбо праз пошту.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Адзін з бацькоў беларускай гістарыяграфіі

# 150 гадоў з дня нараджэння Мітрафана Доўнар-Запольскага

Беларускі гісторык і этнограф Мітрафан Доўнар-Запольскі нарадзіўся 14 чэрвеня 1867 г. у Рэчыцы. Паходзіў з сям'і дробнага беззямельнага дваранства, сын калежскага сакратара Віктара Доўнар-Запольскага. Значны перыяд яго жыцця быў звязаны з Кіевам. Яшчэ ў раннім юнацтве быў адлічаны з 8-га класа гімназіі за чытанне кніг „злачыннага зместу" — твораў Тараса Шаўчэнкі і лістоў да Аляксандра Герцана. Аднак здолеў здаць гімназічныя іспыты экстэрнам і паступіць ва ўніверсітэт. У 1893 г. скончыў гістарычна-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта. У 1901 г. абараніў магістарскую дысертацыю, у 1906 г. — доктарскую дысертацыю па гісторыі. З 1899 г. быў прафесарам Маскоўскага ўніверсітэта, з 1902 г. — прафесарам рускай гісторыі Кіеўскага ўніверсітэта. Арганізатар і дырэктар Вышэйшых камерцыйных курсаў у Кіеве (1906 г.), дырэктар Палаты экспертаў, старшыня навукова-папулярных гурткоў і таварыстваў у Кіеве.

Пасля канфлікту са студэнтамі Кіеўскага камерцыйнага інстытута ў 1917 г. і так званай „Справы Сташэўскага" адмовіўся амаль ад усёй выкладчыцкай працы. У снежні 1919 г. — прафесар Харкаўскага інстытута народнай гаспадаркі, у 1920-1921 гг. — прафесар Харкаўскага ўніверсітэта. У 1922-1925 гг. працаваў прарэктарам Азербайджанскага ўніверсітэта і прафесарам Бакінскага політэхнічнага інстытута. Пасля пераезду ў Беларусь — прафесар беларускай гісторыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (кастрычнік 1925 — восень 1926). Разам з Дзмітрыем Даўгялам у 1925 г. быў стваральнікам Археаграфічнай камісіі Інбелкульта. Пасля змушанага пераезду ў Маскву восенню 1926 г. часта мусіў працаваць па-за навуковым полем дзейнасці. Прафесар Ціміразеўскай акадэміі (1930-я гг.). У 1920-1930-х гг. таксама займаў пасады ў сістэме кіравання гаспадаркай у савецкіх Украіне, Азербайджане, Беларусі і Расіі.

Доўнар-Запольскі актыўна падтрымліваў БНР, узначальваў Беларускую гандлёвую палату ў Кіеве, падрыхтаваў праект стварэння Беларускага ўніверсітэта ў Мінску. У траўні-кастрычніку 1918 г. удзельнічаў у працы дыпламатычнай місіі БНР у Кіеве, якая шукала магчымасцей дабіцца прызнання БНР у прадстаўнікоў Савецкай Расіі, Украіны, Дона, Германіі і Аўстра-Венгрыі. На просьбе ўлад БНР склаў „Мемарыял" („Асновы беларускай дзяржаўнасці"), які быў надрукаваны ў Гродне і Вільні ў 1919 па-беларуску, па-руску, па-нямецку, па-французску; пазней быў перакладзены на англійскую мову. Дакумент утрымліваў гістарычныя падставы стварэння незалежнай беларускай дзяржавы.

Мітрафан Доўнар-Запольскі — аўтар больш за 150 прац па гісторыі Кіеўскай Русі, Масковіі, Расіі ў XIX ст., гісторыі Літвы і Беларусі, па сацыяльна-палітычных рухах, сялянскім пытанні, этнаграфіі Беларусі. Шырока карыстаўся ў сваіх працах матэрыяламі больш за 20 архіваў (Масква, Пецярбург, Кіеў, Вільня, Варшава, Кракаў, Львоў, Кастрама, Яраслаўль, Ноўгарад, Нясвіж, іншыя). Шмат з прац дагэтуль застаюцца неапублікаванымі. Надрукаваная, але непублікаваная кніга „Гісторыя Беларусі" ў 1926 годзе выклікала абурэнне ўлад БССР, была названа „катэхізісам нацыянал-дэмакратызму", забаронена, а рукапіс канфіскаваны. Пасля гэтага гісторык быў змушаны пераехаць, практычна высланы, у Маскву (восень 1926 г.), і ніколі больш не вярнуўся ў Беларусь.

Памёр Мітрафан Доўнар-Запольскі 30 верасня 1934 года ў Маскве. Пахаваны на маскоўскіх Данскіх могілках.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Урочышча - 2017

Як хутка бяжыць час! За намі ўжо XXII выпуск «Урочышча» — Супрасльскіх сустрэч з натурай і мастацтвам.

Сонечная нядзеля. У цэнтры Супраслі, у даліне на ўзбярэжжы рэчкі, паставілі вялікую сцэну і цэлае мястэчка зялёных, быццам мусульманскія сцягі, і крыху падобных на татарскія юрты гандлёвых палатак. Поўны асартымент: сала, кілбасы, сыр, свойскія пончыкі, расейская касметыка, украінскія завушніцы і рукадзельныя, анучныя цацкі. Пры ўваходзе ў палатачнае мястэчка — выстаўка архіўных фотаздымкаў сем'яў з Супраслі і недалёкіх Студзянак. На вялікіх чорна-белых копіях прадстаўлены сірочы дом з саракавых гадоў мінулага стагоддзя з гаспадарамі — ксяндзом і манашкамі ў капялюшах, напамінаючых белыя самалёты. Прадшколле па вуліцы Касцельнай, затым святая камунія, працэсія пад касцёлам з дзяўчынкамі-кракавянкамі. Ксёндз Гаевіч на фоне царквы ў 1930-х гадах. Ніводнага здымка з манастыра ці нейкага праваслаўнага свята. Са сцэны далятае песня ў стылі рэге — запіс нейкага канцэрта ў Ломжы — «...паглянь у люстэрка, паглянь на сябе, перш чым пачнеш крытыкаваць іншых».

Пару метраў далей у мастацкім ліцэі пачынаюцца заняткі для дзетак з нагоды набліжэння Дня дзіцяці. У прыгожа аднаўленых палацавых інтэр'ерах гледачоў чакае выстаўка пленэрных прац ліцэістаў і гасцей з Каледжа мастацтва ў Мінску. Пастэльныя вулачкі Супраслі і Тыкоціна ў лёгкай, быццам вясенні дождж, акварэлі.

Марта Мушынская-Юзафовіч — настаўніца ліцэя, так як і яе вучні засталіся пад уражаннем ад гасцей з Мінска. У час супольных пленэраў не паспявалі за ўзроўнем і працавітасцю мінчан, якія малявалі кожнага дня ў рэжыме ад усходу да заходу сонца. Кожны прывёз з сабой раскладную табурэтачку і ўсё астатняе. Добра ведалі куды пэндзлем дакрануцца і як ім пакіраваць.

— Дысцыпліна, веды. Далёка нам да іх, — прызнаецца з сумам настаўніца.

Прычына, на яе думку, у невялікай зацікаўленасці навукай у супрасльскай школе.

— У іх шэсць асоб на адно месца, ёсць у чым выбіраць, а ў нас адзін на адно.

Цяпер вучні з Супраслі збіраюцца наведаць сваіх мінскіх калег.

Штогадовыя чэрвеньскія майстар-класы — гэта выдатны спосаб на пабольшанне ліку аматараў мастацтва. Дзяцей сапраўды прыйшло шмат. Найбольш якраз пасля імшы ў мясцовым касцёле.

— Наш ксёндз павінен грашовую прэмію атрымаць ад дырэктара, — гаворыць Марта Мушынская-Юзафовіч. — Ён заўсёды з амбоны людзей наганяе на ўсе нашы мерапрыемствы. А, вядома, ксяндза ў народзе паважаюць.

Пакуль дзеткі «малявалі мішак», якія «шпацыравалі» па палацавых агародах, я падалася ў пошук чарговых мастацкіх атракцыёнаў «Урочышча». Свае крокі я накіравала ў Народны дом на адкрытую там напярэдадні фатаграфічную выстаўку. На жаль, дзверы былі зачынены. Надумалася я пашукаць нечага ў Цэнтры культуры. Па дарозе заглянула яшчэ на панадворак зачыненага тэатра «Вершалін». Затое ў суседнім з тэатрам касцёле натоўп людзей. Стаялі на пляцоўцы пад касцёлам, за агароджай, а некаторыя нават са сваіх лімузінаў не павылазілі. Усе такія стройныя, у макіяжах, з дагледжанымі пазногцямі. Такую моду бачыла я раней толькі ў Лондане пад касцёламі надта пабожных афрыканцаў. Аднолькавая рэлігійнасць, аднолькавая мода. І хто б падумаў, што нашы людзі падобныя на афрыканцаў.

Побач з касцёлам стаіць новая, яшчэ не здадзена ў карыстанне плябанія. На агароджы ад вуліцы плакаты з лозунгамі, выхваляючымі пад нябёсы жыццё ў канкрэтнай супольнасці. Іх аўтар — вядомы з каляндарыкаў «Карытаса» славуты Жан Ванье.

Дзверы Цэнтра культуры таксама былі зачынены. На шчасце ў тым жа будынку знаходзіцца татарскі рэстаран з пахам пірагоў і татарскай музыкай у варыянце «ляйт». Там сказалі мне, што ўсе працаўнікі пякуць бульбяныя бабкі ў палатках. На шчасце пакінулі ў рэстаране ключ. Такім чынам увайшла я ў невялікі пакойчык з фотаздымкамі Віктара Волкава. Увайшла я ў свет дзікай прыроды, бабуль у снезе па калені, драўляных хат і крыжоў. Пасярэдзіне пакойчыка — гаспадар на возе з сенам. Ажно па пяску цягнецца, столькі ж нагружана. Працінскаецца жвіроўкай паміж драўлянымі платамі, за якімі калышацца даспелае збожжа.

Марта Мушынская-Юзафовіч успамінае свае першыя «Урочышчы». Была тады вучаніцай мастацкага ліцэя. Шмат было цікавага, вартаснага — аўтарскія сустрэчы, вулічныя тэатры. Вядома, на сапраўднай культуры не разбагацееш. А тут, аказваецца, лічыцца толькі грашовае багацце.

❖Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# ЗАПРАШЭННЕ

Музей і Асяродак Беларускай культуры ў Гайнаўцы сардэчна запрашае на Беларускі Фэст

**«І ТАМ ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ»**

**18.06.2017**

Ставішчэ ў гміне Чаромха, пачатак у 14.00 г.

У ПРАГРАМЕ :

**ВЫСТУПЫ КАЛЕКТЫВАЎ:**

- ВУЛЬЧАНКІ (Вулька Тэрэхоўска)
- Каляктыў з Чаромхі вёскі
- КАТРЫНКА (Высокае, Беларусь)
- МЭТРО (Гайнаўка)
- КАЛІНКА (Беласток)
- RETROBEATS (Гайнаўка)
- АРТ.ПРОНАР (Нараў)

**КРАМА З БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРАЙ, СУВЕНІРАМІ І РУКАДЗЕЛЛЕМ**

# 18.06 — 24.06

**(22.03. — 20.04.)** Да 20.06. усё можа здарыцца, нават прапанова працы за мяжой. Але твае патрабаванні няхай не будуць надта высокімі, не захварэй на зорную хваробу. Шыкуецца табе скок у кар'еры, але ўсё трактуй не надта амбіцыёзна. Асабліва з 23.06. добра адчуеш сітуацыю і задумы іншых. 24.06. выявяцца сямейныя праблемы, аб якіх ты не ведаў.

**(21.04. — 21.05.)** Нагоды для заробкаў, але з 20.06. захочаш больш часу аддаць сям'і. Аколяць цябе шматлікія сябры, час спрыяе вучобе, здаванню экзаменаў. 18-22.06. не будзь лянівым і абыякавым. Ад 22.06. пачнеш больш зарабляць. Зоркі прыгадваюць табе аб памяркоўнасці. З 23.06. адробіце ў пары страчаны час. На працы найбольш спрыяння народжаным у маі.

**(22.05. — 22.06.)** Не будзеш паўтараць старых памылак. 20-22.06. творчыя і плённыя дыскусіі. Тваім планам і рабоце прысвечвае Сонца. Інспірацыі і задумы. Здабудзеш тое, што хочаш. Хаця асцярожны будзь з новымі знаёмствамі. На працы паціхеньку, па старых сцежках ды ўперад. Дбай аб сваю форму.

**(23.06. — 23.07.)** Нямала энергіі і новых задум, ды ў нейкі ключавы момант можа табе гэтага не хапіць. З 20.06. паявяцца ў цябе новыя перспектывы і шанцы. Але з нічым не спяшайся. Але 19.06. твае планы могуць зламацца. Не думай пра мінулае. На працы засяроджвайся на адным. Пасля 21.06. старайся праводзіць час у сям'і. З 23.06. мноства адвагі і фантазіі.

**(24.07. — 23.08.)** Да 20.06. не пакіне цябе асаблівае шчасце і ўдачы, спрытна пераможаш ворагаў. Канчаткова ўсе справы абернуцца табе да добрага. З 21.06. усё ладна складзецца дома і ў шафе. Знаёмства з сеціва перанясі ў раэльнасць. На працы ўсё ж лепш не кідацца ў вочы шэфу, не распавядай пра планы калегам. І прыхавай грошы, неўзабаве спатрэбяцца табе або тваім блізкім.

**(24.08. — 23.09.)** 18-20.06. старайся быць асцярожным і разважлівым. 19-23.06. вельмі рамантычныя дні. 22-26.06. найбольшыя шанцы на любоўнае ачараванне. Часовыя праблемы мінуць, не паддавайся. Старайся прабываць сярод энергічных, вясёлых людзей. З 22.06. шэф будзе асабліва патрабавальны, а задаволіць яго будзе межаваць з цудам, магчымыя плёткі зайздросных супрацоўнікаў. Варушыся, але не перанатужвайся.

**(24.09. — 23.10.)** Памаленьку наперад. 18-22.06. замяшанне ў пачуццях, крыху нерваў. Заблытаешся ва ўласных эмоцыях. Але напрамак захаваеш. 19-23.06. хтосьці можа табе спадабацца, зусім іншы чым ты, з зусім іншымі каштоўнасцямі і падыходам да жыцця. Не перавялічвай непаразуменняў. Добры час на службовыя падарожжы, курсы, экзамены. Больш дысцыпліны пры здароўі!

**(24.10. — 22.11.)** Перашкод няшмат, але рэалізуй свае планы ў наступным тыдні. Сілаў хопіць. 18-22.06 можаш кончыць нялёгкія адносіны. Паміж 22 і 26.06. можаш пазнаёміцца з кімсьці незабыўным. Пасля 21.06. спадзявайся навалы гасцей, дык напаўняй лядоўню. З 22.06. (да 28.06.) глядзі, каб дзейнічаць разважна, бо інакш угоніць цябе гэта ў небяспеку. Асцярожна з кавай і алкаголем.

**(23.11. — 22.12.)** Вялікая сімпатыя людзей, цікавыя прыгоды. Пераможаш старыя комплексы і пераменіш старыя стэрэатыпы. Дома з 20.06. спакойна, асабліва таму, што ты не будзеш крытыкаваць. На працы 17-22.06. змены, могуць цябе павысіць. Але з 22.06. (да 28.06.) не змагайся з ветракамі.

**(23.12. — 20.01.)** З 20.06. спрыянне ў сямейным жыцці. 24.06. знойдзеш выхад у цяжкай сітуацыі. З 21.06. ты душа кампаніі; ажыўленне ў каханні; у эмоцыях. З 22.06. (да 26.06.) шыкуецца гарачы раман! З 22.06. (да 28.06.) старайся не крытыкаваць сваіх праціўнікаў.

**(21.01. — 19.02.)** Задума, якая прыйдзе табе ў галаву 17-20.06., можа прынесці табе фартуну! Удачы ў бізнесе. Добра і ў пары, нават у былой. Спор у сямейнай атмасферы. Сягні па ўлюбёны спорт з дзяцінства.

**(20.02. — 21.03.)** 19-23.06. ты атрымаеш доказ кахання і адданасці. З 20.06. тваё жыццё стане файнай, вялікай прыгодай. Добра ў супрацоўніцтве, афармленні фінансавых спраў. З 22.06. той, хто бачыць цябе ворагам, зыдзе табе з дарогі. З 22.06. (да 26.06.) твае інвестыцыі будуць трапныя і пойдуць у свет. 24.06. хто хоча мець дзіця — гэта той дзень!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. каралева ад валочнай памеры, маці Жыгімонта Аўгуста = 44 _ 45 _ 16 _ 22 _;
2. казачны карлік = 27 _ 25 _ 26 _ 36 _;
3. шум, гул, гудзенне = 4 _ 3 _ 1 _ 5 _ 2 _;
4. спаборніцтва па скорасці язды, бегу... = 39 _ 38 _ 37 _ 33 _ 32 _;
5. абавязак, узятая пазыка = 23 _ 11 _ 12 _ 21 _;
6. партнёрка таты = 29 _ 28 _ 24 _ 9 _;
7. хлусня = 8 _ 7 _ 13 _ 14 _;
8. у нагавіцах = 34 _ 35 _ 18 _ 19 _;
9. сталіца Латвіі = 42 _ 43 _ 41 _ 40 _;
10. тканіна ад шаўкапрада = 31 _ 30 _ 46 _ 6 _;
11. драўляны валовы хамут = 20 _ 10 _ 15 _ 17 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | | | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| 34 | 35 | | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |
| | | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Малянкоў, калгас, транспарт, кайф, ікол, гора, доля, Агадзір, Міцкевіч, восень.

Рашэнне: **Майская траўка і галоднага корміць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (89)



Ільінскі сабор

У блакітных хвалях Прыпяці адбіваліся неба і Ільінскі сабор. Увагу прыкоўваў зялёны дах царквы з чырвонай цэглы. І званіца з вокнамі, якая сваім выглядам напаміала легендарную замкавую вежу ў Ратне. Такі вадзяны вобраз быў мне патрэбны для ілюстрацыі рэпартажу пра палескія ўяўленні і святыя азёры. Дзень раней я пабывала ў сяле Тур, якраз ля возера Святога. Паводле легенды, там затопленая царква. У яе памяць час ад часу на люстра вады выплываюць іконы, ад якіх б'е боскі бляск, а з-пад вады іграюць званы.

І дзіва — пасля двух з паловай гадоў я вярнулася ў Ратна, каб тут трапіць на сляды Пятра Ратэнскага, які яшчэ пры жыцці прыдбаў сабе клічку дзівоснага цудатворцы. У жыцці праславіўся як боскі іканапісец і непаседлівы падарожнік. Ён жа, па волі складанай гісторыі, стаў першым з мітрапалітаў кіеўскіх, якія з 1325 года мелі пастаяннае месцапрабыванне ў Маскве, і духовым апекуном сталіцы Расіі. Яго асоба таксама прыслужылася духовай спадчыне беларусаў Падляшша. У гады Галіцка-Валынскага княства, на зломе XIII і XIV стагоддзяў, паміж Ратнам і Бельскам адбываліся ажыўленыя гандлёвыя і культурныя кантакты. Якраз па запавеце Галіцка-Валынскага князя Уладзіміра Васількавіча ў Бельск разам з літургічнымі кнігамі была перададзена ікона, напісаная Пятром. Яна заняла пачэснае месца ў замкавай царкве ды праславілася многімі цудамі. На жаль, ні замкавая царква, ні Пятрова ікона, як назвалі шэдэўр славутага іканапісца, не захаваліся да нашых дзён. Аднак іх духовы працяг можна аднесці да Прачысценскай царквы, куды была перавездзена замкавая царква. Менавіта, дзякуючы Прачысценскай царкве, накапіліся і залежы хрысціянства ў маёй грэшнай душы. Якраз да гэтай царквы прыналежалі мае продкі і сваякі па лініі маці. Ды на старонках манаграфіі пра Ратненскую зямлю* часта ў розных стагоддзях з'яўлялася іх прозвішча. Гэты сямейна-свойскі матыў быў зусім нечаканым, а галоўнае, ён заклікаў у пэўнай ступені атаясамлівацца з Ратненшчынай, надта таемным і неадкрытым сёння для нас закуткам Палесся.

* * *

Падобныя высновы зрабілі мае беластоцкія сябры, якія разам прыехалі ў Ратна. На кожным кроку тут сустракаліся Іванюкі, Максімюкі, Грыгарукі, Харкевічы, Касцевіны, Міхалевічы...

Дырэктар дома культуры Лена Горнік, калі даведалася пра маю зацікаўленасць гісторыяй месца, загадала ехаць у раённы аддзел асветы да начальніка Андрасюка. Хоць ён якраз вёў канферэнцыю, выйшаў да нас і дакладна агледзеў ад галавы да ног. На яго румяным твары з'явіліся здзіўленне і ветлівая ўсмешка.

— Маеш тут кабеты і рабі з імі што хочаш! — замест прывітання сказала спадарыня Горнік.

— Але адзін не змагу! — адказаў на жартоўнай ноце Валянцін Сцяпанавіч Андрасюк. І дзелавіта, спытаў: — Што трэба?

— Каб хто расказаў пра Прыпяць і Ратна.

— Зараз усё арганізуем, — абвясціў дзелавітым тонам спадар Валянцін.

Праўда, дзесяць хвілін пазней у прыёмнай з'явіліся дзве інтэлігентныя жанчыны — настаўніца гісторыі Кацярына Пятроўна Філюк і географ Марыя Васільеўная Кашалюк. Начальнік Андрасюк паклікаў іх проста з урокаў, з дзвюх розных гарадскіх школ. Да той пары нас завялі ў прыёмны кабінет, пасадзілі за столікам і пачаставалі кавай, пернікамі і шакаладам.

— А можа па сто грам? — прапанаваў сам начальнік.

— Нельга ў пост!

Адмовіцца ад пачастунку прымусіла найперш карэктнасць — за момант прыйдзецца жа ставіць пытанні пра духовыя жамчужыны Ратна.

— І мы таксама стрымліваем пост, — абвясціў спадар Андрасюк, — аднак калі ў хаце госць, дык можа даруюць там у небе.



З Ленай Горнік (у цэнтры)

Яшчэ ў дарозе спадарыня Лена распавяла пра сем музычных калектываў, якія дзейнічаюць пры Ратненскім доме культуры. У будынку якраз праходзілі рэпетыцыі хароў, у іншым закутку прасторнага будынка ладзілі танцы і скокі.

— Вы рыхтуецеся да сезона? — спытала я.

— У нас увесь час сезон, — адказала яна. — Калі трэба, тады выступаем і спяваем.

— У Вялікі пост, таксама?



Напісаная Пятром Ратэнскім ікона «Багародзіца Пятроўская» XIV в.

— А што зробіш, як трэба, — адказала спадарыня Горнік. — Прыкладна, учора наведалі нас важныя госці з Беларусі. Трэба годна прыняць гасцей, прадставіць ім нашу культуру, каб добра нас успаміналі...

Ужо на пачатку знаёмства з горадам я ведала, што заўсёды буду ўспамінаць тутэйшую культуру. Калі начальнік Андрасюк вярнуўся на сваю канферэнцыю, жанчыны ў кабінеце палічылі працягнуць тэму посту. Усё тут выглядала як у нашых беластоках.

— Нашы мужыкі праз увесь пост не бяруць у рот мяса, усе шчыра посцяць. Але калі нагода выпіць, то ніколі не адмовяцца ад гарэлкі!

* * *

Пятро Ратэнскі — самы выдатны іканапісец і пісьменнік Галіцка-Валынскага княства, амаль забыты і замоўчаны на радзіме. У мяне атрымалася ўражанне, быццам тут сумняваліся, не давяралі ў яго існаванне. Гэты недавер падбіваюць некалькі версій жыццяпісу і агіяграфіі. У пісьмовых крыніцах не пазначаны дата і месца яго нараджэння. Найстарэйшыя агіёграфы аднатоўваюць, што будучы святы нарадзіўся ў сям'і Фёдара і Еўфрасінні дзесьці на Валыні. У дваццацігадовым узросце паступіў у манастыр, каб атрымаць адукацыю. Але навука не адразу трапіла ў галаву навічка. Першыя гады паслушання ён не вымаў рук з халоднай вады. Насіў вёдрамі ваду з Прыпяці, паласкаў валасяніцы манахаў, прыбіраў падлогу ў келлях, чысціў літургічную пасудзіну і жырандолі. Без супраціву выконваў усе назначаныя задачы. Свядомы сваіх недахопаў пакорліва крочыў абранай дарогай, каб пасля ў дарослым жыцці, адважнай і чуткай рукой спісаць божыя паведамленні і вобразы. Ці можа памятаў сон маці, які прысніўся напярэдадні яго нараджэння? Вось, набожнай Еўфрасінні падалося ў сне, што трымае на руках ягнятка, у якога між рагамі вырасла дрэва, аблепленае процьмай красак і пладоў, а пасярэдзіне гэтага дрэва гарэлі свечкі, ад якіх лунаў цудоўны боскі водар.

У першай палове XIII стагоддзя, калі дзесьці між 1225-1245 гадамі з'явіўся на свет будучы святы, празорлівыя сны ўспрымалі як наканаванне. Анірычныя загадкі паяснялі адмысловыя спецыялісты. Яны паводле сонных вобразаў і знакаў чыталі будучыню. Тлумачэнні празорлівых сноў часта вырашалі пра лёс і жыццёвыя выбары. Сон набожнай Еўфрасінні патлумачылі наступным чынам:

— У народжанага дзіцяці божыя таленты, якія ў будучыні спрацуюць у службе Маці-Царквы і прыаздобяць яе духовымі жамчужынамі і дыяментамі...

У падобны, фантастычны спосаб разгарнуліся навуковыя здольнасці і мастацкія таленты будучага святога. Цуд аднатаваны ў «Валынскіх епархіяльных ведамасцях» за студзень 1872 года (3 студзеня царква адзначае яго свята). Вось да Пятра, які не ўмеў справіцца з навукай, у сне з'явіўся чалавек, апрануты ў царкоўныя рызы, са ззяючым німбам. Ён загадаў Пятру: «Отрок, открый уста свої». Спалоханы Пятро паслухмяна выканаў жаданне соннай з'явы. І тут велічны муж дакрануўся да языка і паблаславіў яго. З таго часу, пісалі ў «Валынскіх ведамасцях», для юнака не было ўжо ніякіх складанасцей у навуцы і ў хуткім часе ён стаў найлепшым вучнем сярод аднагодкаў. Тады выявіўся таксама асаблівы талент да малявання...

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

* Ратнівська земля — В.Т. Денисюк, І.О. Денисюк, Луцк 2003

ISSN 0546-1960